4 снежня 2020 | № 46 (705)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час
novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ ПАДЗЕІ ФАКТЫ
ISSN 2218-2144

Бела-чырвона-белы сцяг: абярэг незалежнасці і ідэнтычнасці
стар. 10–11



# Беларусь будзе вольнай!

Віктар МАРЦІНОВІЧ

**Вялікая група насельніцтва робіцца народам тады, калі праходзіць свой унікальны шлях. Той шлях, па якім не хадзіў ніхто дагэтуль у гісторыі.**

Утварэнне БССР не было ўнікальнай падзеяй — яно капіявала тое, праз што прайшлі іншыя 15 саюзных рэспублік. Не быў самасным і 1991 год, у нейкім сэнсе мы прайшлі па сцежцы, пракладзенай балтыйскімі дзяржавамі.

Нават БНФ усе за межамі Беларусі ўспрымалі як парагалосак літоўскага Саюдыса. Але тое, што ў Літве суправаджалася нацыяўтваральным змаганнем, у Беларусі адбылося без высілкаў — мы набылі незалежнасць, якая паўнавартаснай незалежнасцю не была.

І толькі цяпер, праз 26 гадоў знаходжаня пад велічэзным прыгнётам, беларусы пачалі пісаць сваю адметную, ні з чым не параўнальную гісторыю.

Тую гісторыю, пра якую будуць распавядаць падручнікі будучыні пасля акрэсленых адным радком акалічнасцей выхаду з СССР. Вось гэта і ёсць выпрабаванне, якое робіць насельніцтва народам.

Гэта і ёсць тая гісторыя, якая наша, не параўнальная ні з чым.

Гісторыя страху і яго пераадолення.

Велізарнага страху. Страху, калі ты не ведаеш, ці вернешся дадому, выходзячы ў краму па малако. Страху, калі ў тваім двары гойсаюць апранутыя ў чорнае людзі, работа якіх — цябе прыпужваць.

І разам з тым — вялікага разняволення, калі нават пенсіянеры — знямоглыя, цалкам залежныя ад дзяржавы з яе пенсіямі — ідуць на вуліцы і становяцца поплеч з маладымі. Ведаючы, што могуць быць увязненыя без шанцаў выйсці з астрога.

Паўтаруся: такога не было нідзе і ніколі. Нідзе не было асобных штотыднёвых маршаў сталых; не было стыгматызацыі вялізных сацыяльных груп — такіх як медыкі, студэнты ці жыхары Новай Баравой. Не было 30 тысяч затрыманых за тры месяцы. І каб пасля такога людзі працягвалі ісці.

І гэта цяпер — не пра нешматлікіх свядомых герояў, як было ў 1990-я з людзьмі, абуджанымі Зянонам Пазняком. Калі адны хадзілі па вуліцах з бел-чырвона-белымі сцягамі, а іншыя лічылі іх дзівакамі, якім больш за ўсё патрэбна.

Цяпер герой — увесь беларускі народ, увесь без вынятку.

Насельніцтва робіцца народам тады, калі ў яго з'яўляецца гісторыя, паслухаць якую цікава не толькі людзям адсюль.

Мы прызвычаіліся існаваць на ўскрайках еўрапейскай гісторыі. Мы прызвычаіліся да таго, што да нас не было аніякай цікаўнасці. Мы нават самі сабе былі не надта цікавыя, чытаючы, слухаючы і гледзячы чужое.

Цяпер — час, калі маскоўскі гурт «Каста» піша песню «Выходи гулять» паводле падзеяў, якія мы нарадзілі.

Час, калі любы творца тут дае па два інтэрв'ю на тыдзень людзям з буйных замежных СМІ.

Час, калі пра затрыманне Іллі Чарапко з «Петли Пристрастия» даведваешся з буйных расійскіх медыя, што раней да нас ставіліся з лёгкай пагардай, як да нягеглага малодшага брата.

Час, калі за намі сочыць і намі ганарыцца без перабольшання ўвесь свет.

Прапаганда называе сябе «бацькамі» і «стваральнікамі» беларускай краіны. І — парадаксальна — нешта такое сапраўды цяпер адбываецца.

Але адбываецца не дзякуючы нацыястваральным высілкам сістэмы. А насуперак ім. Сістэма паклала на плечы беларусаў велізарны прыгнёт. І калі яны пачалі паўставаць, той прыгнёт узмацніла да нечалавечых маштабаў, якія выходзяць за межы этыкі. Але людзі не скарыліся і пачалі свой маўклівы, цяжкі шлях.

Мы пакуль толькі пасярэдзіне. Ніхто не ведае, як скончыцца фільм жахаў, які штодня паказваюць на нашых вуліцах.

Але насельніцтва ўжо зрабілася народам.

І ў той час, калі я пішу гэты тэкст, па мінскіх вуліцах ідзе Марш мудрасці. Іх атачаюць чорныя, іх затрымліваюць, але яны ідуць.

То ў нас ёсць што распавесці пра сябе.

А таму мы ёсць і будзем.

budzma.by

# «Гэты Вася — падсадны, сто адсоткаў»

Раман АБРАМЧУК

**Хтосьці атрымлівае псіхалагічную траўму, хтосьці натхняецца на творчасць. Прапануем вам нататкі з акрэсцінска-жодзінскай вандроўкі экскурсавода Рамана Абрамчука.**

### Эдуард — значыць Салідарнасць

Эдзік — рэдкаснае боўдзіла. У той злашкодны вечар ён махануў 50 грамаў і выйшаў па макароны па просьбе сваёй нарачонай — трэцяй ці якой там па ліку, з якой збіраўся афіцыйна распісацца праз некалькі дзён. Набліжаючыся да скрыжавання, Эдзік убачыў групку такіх жа рэдкасных боўдзілаў: а як інакш назваць тых, якім ужо і кіроўцы сказалі, што па іх выехалі бусы з цікарамі, і парачку цікароў яны ўжо самі пабачылі побач — але дзе ж там, пратэстоўцаў жа больш! Верым, можам!

Вось і Эдзік — сілай дурной гравітацыі прыцягнуўся да чорнай дзіры гэтых няўдачнікаў, паспяшаўся да іх шкадобнай купкі, і, заўважыўшы, што нават яны пачалі разыходзіцца, вырашыў хоць на імгненне падтрымаць акцыю: эпічна, на ўсе шыркі грудзей разгарнуў прыхоплены на ўсялякі выпадак з дому сцяг прама пасярэдзіне дарогі. Прама перад цікарскім бусам — як ён зразумеў гэта праз секунду пазней. Хлоп! Адчыніліся дзверы, і ліпкая цемра, што вывалілася з бусавага нутра, проста запрасіла яго прайсці ў салон...

Пасля кашмарнага РУУСа нас пасадзілі ў аўтазак, які яшчэ гадзіны паўтары аб'язджаў РУУСы іншых раёнаў, нібы камбайн з мардорскіх палёў, усмоктваючы ўраджай — збіраючы ўсіх затрыманых за гэты вечар. Шлях быў начны і трывожны, і вось дзесь пасярэдзіне маўклівую напружаную цемрадзь аўтазакавай каробкі нібы электрычным токам разрадзіла гучнае і бадзёрае: «Хлопцы, не здаемся! Наша возьме!».

Прызнацца, мы, ператвораныя пагрозамі і збіццём пры затрыманні ў сапраўдных мышэй, якія баяцца паварушыцца не ў той бок, каб зноў не наклікаць кіпцюроў кацішчы — былі трохі агаломшаныя такой дзёрзкасцю. І кацішча адразу з'явіўся, як джын з бутэлькі, бесцялесна: «Хто крычаў? Завалі пі...ёж, сука!». А Эдзік — мы пазнаёміліся троху пазней, у «стакане» на Акрэсціна — не сунімаўся: «Хлопцы, вы ж кажыце, калі каму дрэнна, у каго астма — не маўчыце!». Я спачатку падумаў, што гэта Завалі-пі...ёж раптам спужаўся адказнасці за здароўе затрыманых, і таму перапытвае пра астму, і я крыкнуў, што дрэнна мне.

А Эдзік з іншага канца аўтазака адразу ж падтрымаў: «Хлопцу дрэнна! Уключыце вентыляцыю, гады!». На гэты раз Завалі-пі...ёж дзейнічаў куды больш рашуча: дастаў Эдзіка з яго адсека, заламаў яму рукі за спінай, надзеў жалезныя кайданкі і шпурнуў назад. Потым у «стакане» (малюпасенькая камера, дзе затрыманыя, стоячы ў цеснаце, чакаюць размеркавання) Эдзік весела паціраў абадраныя кайданкамі рукі, дыхаючы на нас усепераможным перагарам. Я прыглушана мямліў нешта накшталт: «Дзякуй, дружа, за мяне пацярпеў». Эдуард нават увагі не звярнуў — працягваў смяяцца, не асабліва кантралюючы ўзровень голасу, усё падрабязней распавядаючы нам гісторыю свайго велічнага фіяска з макаронамі, сцягам, шлюбам.

### Балаклава з АліЭкспрэс

Мы ўбачылі яго ў першы дзень у Жодзіне. Пасля прыёмкі, якая суправаджалася пастаянным брэхам аўчарак — у адной танальнасці з гыркannem ахоўнікаў — ён быў першы, хто загаварыў з намі са спакойнай людской інтанацыяй. І мы яго пазнавалі па гэтай інтанацыі, нават не па голасе — бо ён, падпарадкоўваючыся карпаратыўнаму трэнду — таксама насіў балаклаву. Але нейкую смешную, дзіцячую, з якойсьці тонкай мяккай матэрыі, з недарэчнымі белымі палоскамі на складках, падобнымі да расфарбоўкі мульцяшных ніндзя.

«Купіў, мабыць, на "АліЭкспрэс"», — пажартаваў адзін з нашых, і гэта стала мянушкай для НАШАГА ахоўніка. У яго можна было спакойна запытацца: якая гадзіна (там — нават гэтая веда пра знешні свет з'яўляецца дэфіцытам), хто сёння прэзідэнт (гэта быў наш спосаб падкалоць ахоўнікаў), калі ўжо будзе, нарэшце, прагулка... І вось, аднойчы мы запыталі Балаклаву з АліЭкспрэс пра кнігі, ці ёсць тут бібліятэка. І ён адказаў, што бібліятэкай карыстацца можна толькі зэкам. «А мы хто?» — рэзонна запыталіся мы. «А вы... ну вы... вы — людзі!» — нечакана выпаліў хлопец. Потым гэтае «вы — людзі» самыя цынічныя з нас паўтаралі да канца «сутак».

А аднойчы Балаклава з АліЭкспрэс прыйшоў без балаклавы. Аказалася — гэта быў зусім юнак, хлопец гадоў 19-ці... Ён тады яшчэ папярэдзіў нас, ucчуўшы, што хтосьці паліць у камеры, каб не палілі, бо ён, маўляў, усё разумее, але астатнія ахоўнікі — звяры, і спуску не дадуць... Дык нашыя падкалолі і на гэты раз: «А вы без балаклавы выглядаеце куды лепш!». Хлопец збянтэжыўся і пачырванеў. І мы запомнілі гэтую чырвань. І мы будзем сведчыць пра яе. Як і пра балаклаву, якая яму не пасавала.

### «Хто з нас мент?»

«Хто з нас мент?» — жартоўна прымружыўшыся, аглядае балагур Лёха сваіх сукамернікаў. А трэба сказаць, што гэты калектыўны падсвядомы страх наяўнасці ў кампаніі стукача напаўняе сваім атрутным душком ці не кожную камеру «палітычных». «Саня? Не, розуму не хопіць на такое. Макс? Малы яшчэ. Калян? Мабыць ён, ён! Казаў жа пра сваяка ў міліцыі. Рома? Не, доўгія валасы, акуляры — не той тыпаж...» — Лёха правакуе кожнага па чарзе, расштурхоўваючы вечарова-лянівую камеру на жарты. «Лёха, дык ты ж і ёсць мент! — вырашае падкалоць прыкаліста яго ж шпількай Рома. — Ты ж нам сам плёў нешта пра разведку, спецаперацыі ў арміі...»

І Рома ўзгадвае папярэднюю камеру. Як адзін з сукамернікаў, Васіль, відавочна выдзяляўся — недалёкасцю і нешматслоўнасцю, хранічным няўменнем гуляць у «кантакт»... Калі перад транспарціроўкай у Жодзіна ўсіх астатніх паклікалі ў калідор з рэчамі — яго аднога пакінулі ў камеры. І ў дворыку на перакуры адзін з нашых падляцеў да нас і спешна затараторыў: «Гэты Вася — падсадны, сто адсоткаў. Пакінулі аднога, і ён нічога ўцямнага не адказвае, чаму так».

Тут я ўзгадаў, што ў мяне ў галаве таксама мільгала думка пра Васю, калі яшчэ гуляліся ў гарады — Вася ведаў толькі Магадан і Растоў з Данецкам, дый тыя — называў па некалькі разоў за гульню. Ну а потым ён стаў распавядаць нейкую лухту пра ўваход у схаваную прастору смартфона праз калькулятар — маўляў, вось так можна схаваць і тэлеграм, і ўсё астатняе. «Зусім нейкая ерась», — канчаткова насцярожыўся я. Але ў дворыку тады я вырашыў супакоіць устрывожанага суседа: «Ды ладна, можа, проста маўклівы дзядзька, і да нас непадобны... Не перайма́йся». Сам жа пашкадаваў, што шмат нагаварыў лішняга за суткі, зрэшты, як і ўсе астатнія...

І вось Лёха. Хахмач і пашляк, хуліган і бабнік. Апроч сваіх пазашлюбных прыгодаў, ён паспеў нам пераказаць усе свае армейскія прыколы, і сярод іх насамрэч узгадваў нейкія сакрэтныя заданні, падрабязнасці якіх яму быццам бы нельга было распавядаць — і пра якія ён тут жа нам падрабязна распавёў, перасыпаючы жартамі. «Я — мент?! Ды на х.й трэба! Я бухаць люблю — прагаварыцца магу!» — крые Лёха.

Вечар цягнецца далей, бяжыць няспешна, як таварняк на сарціровачнай станцыі, мяняючы адно беспантовае месца на іншае... Будуем планы на будучую сустрэчу сукамернікаў у піўным бары, дзесь пабліжэй да якой-небудзь раённай пратэстнай акцыі, для экстрыму. І я адчуваю, што менавіта з Лёхам, з яго дзяржаўна-вайсковай біяграфіяй — можна напіцца бязбоязна.

...На выхадзе сябар-айцішнік распавядае мне пра новую мабільную прыладу ў выглядзе калькулятара, якая дазваляе ўваходзіць у схаваную прастору тэлефона.

**Працяг будзе**

# Жыццё ў наўпроставым эфіры

Сяргей ВАГАНАЎ

**Дарагая! Я пішу да цябе гэты ліст, і праз няспынныя выбухі і страляніну зноў чую твой голас: «Мы ляжым на падлозе... яны страляюць... кідаюць гранаты... свецяць ліхтарыкамі па вокнах... людзі хаваюцца ў кватэрах... дзякуй гаспадарам...»**

— Яна што, працягвала весці рэпартаж?! — здзівіўся адзін з нашых сяброў пасля словаў падтрымкі і спачування.

Толькі потым мы даведаліся, што граната выбухнула побач з табой...

Я пішу да цябе гэты ліст, чую твой голас праз няспынныя выбухі, страляніну, а перад вачыма высокі ўзгорак над Сораццю, прытокам ракі Вялікай, у пушкінскім Міхайлаўскім, і мой тата, твой прадзед, раптам кажа:

— Унь, бачыш той мост над Вялікай?..

Так, я бачыў той мост, бачу дасюль, і не магу ўявіць сабе, як мой тата і твой прадзед, маленькі ростам, фізічна не вельмі моцны і, як мне здавалася, не асабліва храбры, прыняў, калі загінуў камбат, камандаванне на сябе:

— ...мы адбілі тады 19 танкавых атак...

Мой тата і твой прадзед патрапіў у той батальён, каб напісаць пра жаўнераў, пра тое, як яны рыхтуюцца да наступу, бо на вайне і ваяваў, і быў журналістам. У нашым сямейным архіве захавалася цыдулка аднаго з жаўнераў з просьбай да капітана Пінхасіка прывезці як мага болей газет, бо не хапае паперы на самакруткі...

Я спытаў тады, над Сорацццю, ці напісаў ён пра тыя атакі. «Так, — адказаў тата, — напісаў... Але даводзілася перапісваць. Бо паперы патанулі ў Вялікай. Калі сам ледзь не патануў...».

Ён быў Журналістам, мой тата і твой прадзед.

Я пішу да цябе гэты ліст, сэрца захлынаецца любоўю, а ў скронях, нібы чарга з аўтамата, пульсуе крывёю пытанне: «Чаму?».

Чаму? Як так здарылася, што амаль праз стагоддзе ад той вайны праўнучка журналіста, каторы ваяваў з фашызмам, унучка журналіста, каторы пражыў у сваёй прафесіі адносна мірнае жыццё, зноў трапіла на вайну з фашызмам, мо нават куды больш мярзотную з ягонага боку, бо гэта вайна з уласным народам, які прагне Праўды, Жыцця і Свабоды.

Я пішу да цябе гэты ліст і адчуваю глыбокі сорам за тое, што маё пакаленне журналістаў не здолела прадухіліць наступ дзікунства.

Я пішу да цябе гэты ліст і адчуваю неймаверную цяжкасць, з якой твае бацькі, мы з бабуляй, цягам амаль усяго твайго жыцця ў журналістыцы намагаемся спалучыць гонар за цябе з неадчэпным хваляваннем за тваё здароўе. А з моманту, калі ты з'яднала сваё жыццё з Ігарам (палітолаг Ігар Ільяш. — Рэд.), — і за яго, за вас, за вашу маладую сям'ю.

Ты памятаеш, як усе мы настойліва ўгаворвалі вас з'ехаць з краіны, пазбегнуць кратаў, якія з кожным тваім стрымам усё хутчэй набліжаліся да цябе, да вас. Мо зараз ты думаеш, што мы ў адчаі згрызаем локці, паўтараем пра сябе: «Як жа мы былі правы... мы ж папярэджвалі... прадбачылі... папярэджвалі...» Не думай так. Бо калі мы ўбачылі і адчулі неймаверна вялікую хвалю салідарнасці з усімі кінутымі за краты журналістамі, з табой асабіста; калі мы ўбачылі, як ты, танюткая, бы сцяблінка, і не вельмі моцная на здароўе, трымаешся на гэтай вайне, мы пазбавіліся цалкам зразумелай і даравальнай родным людзям слабасці. І сказалі сабе: мы не можам дазволіць сабе быць няроўнымі табе ў трыванні ўдараў лёсу, у разуменні тваёй адданасці прафесіі, якая ўласцівая кожнаму твайму кроку ў ёй.

Магчыма, ты асудзіш мяне, але я размаўляў са следчым па тваёй справе. Мяне цікавіла адно: якія менавіта дзеянні крымінальнага кшталту ты здзейсніла падчас стрыму з Плошчы Пераменаў, то-бок выканання сваіх прафесійных абавязкаў... Ён адказаў, што не скажа, і ўсклікнуў: «Ды якая яна журналістка?!». Мне стала і смешна і горка. Я ведаю, канечне, стаўленне ўлады да журналістыкі, але ўпершыню сутыкнуўся з такім шчырым неразуменнем яе сутнасці. Без усялякіх хістанняў думкі яны лічаць журналістыку сферай абслугоўвання ўлады, а журналістаў — нанятымі яе абслугоўваць. Яны не разумеюць і ніколі не зразумеюць, што сапраўдная журналістыка, у адрозненне ад палітыкі, — ратавальная для чалавецтва прафесія.

Бо толькі праз журналістыку чалавецтва бачыць сваё жыццё непасрэдна ў наўпроставым эфіры і атрымлівае магчымасць супрацьстаяць Злу.

Ты не ўяўляеш сабе, якая колькасць сяброў, знаёмых і ўвогуле незнаёмых людзей з Беларусі і розных куткоў планеты выказваюць падтрымку табе, нам, усім тваім сябрам і калегам, якія кінуты за краты. Акрамя салідарнасці я чую ў гэтай хвалі прагу наўпроставага эфіру Праўды.

Прагу з'яўлення ў наўпроставым эфіры цябе, тваіх мужных сяброў і калег, журналістыкі, незалежнай ад нічога і нікога, акром Праўды.

Трымайся, дарагая!
Мы побач.
Мы разам...

# «Мама пабудзіла, сказала: “У дзверы звоняць людзі ў масках і камізэльках”»

Кацярына ПАНЦЯЛЕЕВА




**На супрацоўніцу БДУІР завялі крымінальную справу. Яе 18-гадовы сын распавядае TUT.BY праператрус, лісты з ізалятара і дарослае жыццё.**

### «Ніколі не думаў, што мне давядзецца збіраць камусьці перадачы»

15 верасня Івану Пушнякову споўнілася 18 гадоў, а праз два месяцы, кажа, на яго звалілася ўсё і адразу. Раніцай 12 лістапада, успамінае Іван, да іх у дзверы патэлефанавалі «людзі ў масках», пасляператрусу яго маму Вольгу Філатчэнкаву, супрацоўніцу БДУІР, «павезлі на гутарку».

— Увечары адвакат паведаміла, што мама застаецца ў СІЗА КДБ, — вяртаецца да тых падзей Ваня. — Ёй прад'яўлёнае абвінавачанне па ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса («Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх»).

Ваня студэнт-першакурснік, вучыцца ў БДУІР. «Я не выдатнік, але і не аўтсайдар», — сцісла распавядае пра сябе. Да звыклага


Фота www.tut.by

спісу спраў, дзе раней асноўным клопатам былі толькі пары і падрыхтоўка да іх, цяпер дадаліся хатнія турботы, фінансавыя моманты і пытанні, звязаныя з матчыным арыштам.

— Ніколі не думаў, што мне давядзецца збіраць камусьці перадачы ў ізалятар, — усміхаецца малады чалавек. — Добра, дапамагла цётка Лена. Гэта мама маёй былой аднакласніцы. Яна склала спіс патрэбных рэчаў, а я ўжо хадзіў па крамах, купляў. Цяжэй за ўсё было знайсці шампунь у празрыстай бутэльцы. А яшчэ люстэрка, каб простае, без усялякіх фінціфлюшак.

З Ванем мы сустракаемся ў рэдакцыі TUT.BY. Дзве гадзіны таму ў яго скончыліся пары. З вучобы ён пераключаецца на гісторыю мамы — Вольгі Філатчэнкавай, асістэнта кафедры праграмнага забеспячэння інфармацыйных тэхналогій БДУІР. На днях праваабаронцы прызналі яе палітвязнем.

— Маме 41 год, яна вельмі рознабаковы чалавек. Любіць падарожнічаць, з дзяцінства займаецца танцамі і вакалам. Наведвае адкрытыя лекцыі, шмат чытае, — пералічвае захапленні Вольгі сын. — У БДУІРы, які яна сама калісьці заканчвала, мама працуе трэці год. Не магу сказаць, што да гэтых выбараў яна актыўна цікавілася палітыкай, але гэтым летам вырашыла стаць незалежным назіральнікам. Чаму? Напэўна, сітуацыя ў краіне такая і нешта павінна памяняцца.

Вольга — адна з супрацоўнікаў БДУІР, хто падтрымаў забастоўку, абвешчаную Святланай Ціханоўскай. Як і наколькі актыўна жанчына ў ёй удзельнічала, сын не ведае. Акрамя таго, Вольга знялася ў відэазвароце, дзе выкладчыкі і работнікі ВНУ выказаліся з нагоды затрыманняў і праследу студэнтаў і супрацоўнікаў універсітэта, а таксама гвалту ў краіне.

— Маму зачапіў арышт Дзмітрыя Мазура (студэнта БДУІР, які правёў за кратамі 38 сутак). Яна не вучыла гэтага хлопца, але калі сталі хапаць студэнтаў, яна як выкладчык не магла сядзець у баку, — распавядае Іван. — Калі шчыра, дома мы не нагружалі адно аднаго палітыкай. Глядзелі серыялы, гулялі ў настолкі, стараліся праводзіць час разам.

Бацькі Івана ў разводзе. Ваня распавядае, што жыве з мамай і 7-гадовай сястрой Машай, і дадае, што з татам ва ўсіх добрыя адносіны.

### «Здаецца, падчасператрусу шукалі нейкія дакументы»

— 12 лістапада прыкладна а 10.30 мяне пабудзіла мама. Сказала: «У дзверы звоняць людзі ў масках і камізэльках». Я спалохаўся, мама таксама. Яна патэлефанавала на працу, дзядулю з бабуляй і ў «Вясну», — вяртаецца да тых падзей малады чалавек. — Дзядуля з бабуляй пенсіянеры і жывуць побач, таму яны неўзабаве прыйшлі. Дзед паглядзеў пастанову і паведаміў, што мы павінны адкрыць.

Усяго, працягвае Іван, сілавікоў было чацвёра. Адзін з іх — кіраўнік, прадставіўся супрацоўнікам КДБ, іншыя сябе не называлі. У дакуменце, які паказалі Філатчэнкавым, было напісана пра артыкул 342 КК РБ.

— Мне здаецца, падчасператрусу шукалі нейкія дакументы, — дзеліцца здагадкамі малады чалавек. — Сілавікі, напрыклад, вельмі скрупулёзна праглядалі кніжную шафу, а ў бялізнавых асабліва не ўзіраліся. Бачыў, што канфіскавалі матчын рабочы сшытак, куды яна рабіла пазнакі, калі была незалежным назіральнікам, а таксама раздатkавыя матэрыялы, звязаныя з нагляднымі справамі. Забралі нашы з мамай ноўтбукі і тэлефоны. Мы прасілі пакінуць маю тэхніку, яна мне патрэбна для вучобы, нам адказалі: раз мы жывём у адной кватэры, то павінны забраць і яе.

Ператрус, кажа Іван, доўжыўся каля чатырох гадзін, пасля гэтага Вольгу «павезлі на размову».

— Адразу, як толькі яны ўвайшлі ў кватэру, мы спыталі: «У якім статусе знаходзіцца мама?» Нам растлумачылі, што па справе праходзіць толькі кватэра, а пасляператрусу паведамілі: мама затрыманая, — апісвае тое, што адбываецца, Іван. — Як сын я быў усхваляваны і напалоханы. Пытаўся: «Куды вы яе вязеце? На колькі? Для чаго?» На ўсе пытанні мне адказвалі адно: з вамі звяжуцца. Добра, што ў мамы быў адвакат. Увечары абаронца паведаміла: мама застаецца ў СІЗА КДБ. У гэты панядзелак, калі мы з дзядулем панеслі маме перадачу, даведаліся, што яе перавялі ў СІЗА № 1 на Валадарскага.

### «Пачаў атрымліваць ад мамы лісты, стала спакайней»

У вечар мамінага затрымання, працягвае Ваня, патэлефанаваў тата. Сказаў, што дзеці заўсёды могуць на яго разлічваць. Бабуля з дзядулем прапанавалі ўнукам пераехаць да іх.

— Пакуль сілавікі тэлефанавалі ў дзверы, мама паспела напісаць даверанасць, каб Маша жыла ў яе бацькоў, — тлумачыць сітуацыю Іван. — Маша пераехала, а я застаўся. Тут мне спакайней. Сястры мы кажам, што мама ў камандзіроўцы... Мяне вельмі накрывае, калі я знаходжуся побач з Машай. Цісне ад таго, што мы ведаем праўду, але ёй не гаворым. Яна часта пытаецца пра тое, калі мама вернецца, а чаму яна піша, а не тэлефануе, і мы ўвесь час ёй нешта прыдумляем. Яна бегае, усміхаецца, а ў мяне ўнутры бязладдзе.

Асабліва цяжка, працягвае Ваня, было першыя паўтары тыдні. Кладзешся спаць, не можаш заснуць, заснуў — прачынаешся.

— А потым я пачаў атрымліваць ад мамы лісты, стала спакайней, — кажа ён. — Піша, што яна ў парадку, і аб тым, што, падобна, кіне паліць. Гэта мяне радуе. У ежы непераборлівая, таму не скардзіцца. Расказвае пра сукамерніц і пра тое, што пачала чытаць Булгакава.

***— А вы ёй пра што пішаце?***

— Пра тое, што ў нас усё нармальна, што перажываем і трымаемся.

А наогул яны з дзядулем вырашылі, што як мужчыны павінны ўзяць на сябе клопат пра сям'ю.

— Стараемся трымацца з халоднай галавой, — жартуе Ваня. — Я загрузіў сябе хатнімі справамі, вучобай — гэта дапамагае абстрагавацца. У ноўтбуку, які ў мяне канфіскавалі, былі падрыхтаваныя да абароны працы, справаздачы, цяпер усё гэта трэба перарабляць. Адвакат напісала заяву, каб маю тэхніку ўсё ж вярнулі, але пакуль безвынікова. Спытаў у прыяцеляў, можа, у каго-то ёсць свабодны ноўт, аказалася — няма. Вядома, вучыцца ў БДУІР без свайго ноўтбука — той яшчэ квэст, але хлопцы выручаюць. На лабараторных па праграмаванні падсаджваюся да аднакурснікаў. У гэтай сітуацыі я нават плюс знайшоў, калі чагосьці не разумею з кодам, можна тут жа спытаць у таварыша.

Гаспадарскія справы, жартуе Ваня, яго не палохаюць. Да таго ж, пасля затрымання мамы адгукнулася нямала неабыякавых людзей.

***— А што ў вас з грашыма, усё ж такі вы не працуеце?***

— З аплатай вучобы падстрахуе тата, на жыццё і камуналку хапае зберажэнняў, плюс я займаюся з дзецьмі англійскай, — усміхаецца малады чалавек. — Ключавое — адвакат. З гэтым пакуль дапамагаюць сваякі, знаёмыя, матчыны студэнты і іх бацькі. Было кранальна, калі некаторыя з іх набіралі, казалі: ведаем, што ты сарамлівы, сам не папросіш, таму тэлефануем.

***— Як у 18 гадоў вы з усім гэтым спраўляецеся?***

— Дапамагаюць людзі вакол, — адказвае Ваня. — Самае цяжкае — моцна не сумаваць. Успомнілася, як, бывала, мама ўключыць пасудамыйную машынку, а я толькі нясу сваю талерку на кухню. Яна пачынала галасіць. Мяне гэта злавала, а цяпер разумею, што без гэтага сумую.

а | Азбука паліталогіі

# У пошуках беларускіх фашыстаў



Сяргей НІКАЛЮК

**Слова «фашызм», калі меркаваць па тым, як часта яго ўжываюць у газеце «СБ. Беларусь сегодня», перажывае ў дзяржаўнай публіцыстыцы другое нараджэнне. Крыху статыстыкі. Калі за няпоўныя дваццаць гадоў з моманту яго першага згадвання на сайце газеты (17.07.2001) было апублікавана 620 артыкулаў, якія змяшчаюць гэта слова, то за студзень-лістапад 2020 года — 186 (30 %).**




Справа, аднак, не ў колькасным росце. Кардынальна змяніўся сэнс, які «залатыя пёры» сталі ўкладваць у слова «фашызм». У нулявыя гады слова было звыклым для постсавецкага чалавека. Так, у першым артыкуле гаворка ішла пра дабрачынную аптэку «для былых вязняў фашызму».

Але што знаходзіць пошукавік сёння? «Марш против фашизма» — под бчб» (21.11.2020). «Дичь: марш против фашизма под нацистскими флагами — в Минске…» (22.11.2020). «Эта мантра от наших либералов-демократов нам уже хорошо известна: коммунизм = фашизм…» (04.11.2020).

І нарэшце, артыкул, што змяшчае выказванне галоўнага персанажа маёй «Азбукі паліталогіі». Не магу адмовіць сабе ў задавальненні, каб не працытаваць ключавы абзац: «Что касается фашизма, ко мне это никак не приклеишь, потому что я интернациональный человек. Для меня что украинец, что русский, что поляк, что белорус, литовец, немец — для меня все равно. Вы же видите мою политику. Я всегда гордился тем, что у нас нет драк и противоречий между разными национальностями. Я не националист… А фашизм — это высшая форма национализма. Фашистом может быть ярый националист — это не ко мне» (20.11.2020).

Веды, атрыманыя на гістарычным факультэце Магілёўскага педагагічнага інстытута ў гады брэжнеўскага застою, не схаваеш. А ў тыя слаўныя гады, па якіх сёння многія льюць кракадзілавы слёзы, уладальнікі дыпломаў «выкладчык гісторыі і грамадазнаўства» фашызм ад нацызму (нацыянал-сацыялізму) не адрознівалі. І гэта не было вынікам нейкай недапрацоўкі. Усё адначасова і працай, і складаней, бо без падмены паняццяў у савецкіх ідэолагаў паўсталі б праблемы пры тлумачэнні пераваг сацыялізму над усімі іншымі грамадска-эканамічнымі фармацыямі.

## Пад самагонку і шашлык

Аўтар «Азбукі паліталогіі» гістарычных факультэтаў савецкага разліву не заканчваў. Тым не менш звычку чытаць навуковыя манаграфіі неяк здолеў набыць, і таму для яго не з'яўляецца таямніцай тое, што «фашызм цалкам і абсалютна супрацьстаіць дактрыне лібералізму». Аўтар цытаты — найбуйнейшы тэарэтык і практык фашызму, правадыр (дучэ) італьянскага народа Беніта Мусаліні.

У 1945 годзе ён быў расстраляны і павешаны за ногі ў Мілане партызанамі-камуністамі. Але з гэтага факту не вынікае, што стаўленне фашыстаў і камуністаў да лібералізму і дэмакратыі прынцыпова адрознівалася.

Ці быў Мусаліні нацыяналістам? Пытанне спрэчнае. У любым выпадку, да фанатыка барацьбы за «чысціню нямецкай расы» Адольфа Гітлера яму было далёка. Нездарма будучы фюрэр нямецкага народа сваю палітычную кар'еру пачынаў у нямецкай нацыянал-сацыялістычнай рабочай партыі (НСДАП) — партыі «чыстых арыйцаў». Пра што савецкім людзям пастаянна нагадваў закадравы голас Яўхіма Капеляна ў культавым фільме «Сямнаццаць імгненняў вясны».

А цяпер самы час адкрыць манаграфію «Фашысты» прафесара сацыялогіі Каліфарнійскага ўніверсітэта Майкла Манна: «У Веймарскай рэспубліцы жылі 60 мільёнаў немцаў, але яшчэ амаль 20 мільёнаў пражывалі за яе межамі, у асноўным на прылеглых тэрыторыях. З-за гэтага паняцце "германская нацыя" было сканцэнтравана не столькі на дзяржаве, колькі на этнічнай, патэнцыйна нават на расавай ідэнтычнасці — і мела магутны патэнцыял тэрытарыяльнай экспансіі».

Такі раскол склаўся ў выніку Першай сусветнай вайны, якую Германія прайграла. Што тычыцца радзімы фашызму, то краіна-пераможца Італія «…была паўвостравам, сур'ёзных тэрытарыяльных спрэчак не мела і з асноўнымі сваімі суседзямі — Францыяй і Швейцарыяй — падтрымлівала добрыя адносіны…»

**Постіндустрыяльную эканоміку без постіндустрыяльнага грамадства не пабудаваць. Ахвочым абагнаць Еўропу па якасці аўтамабіляў неабходна спачатку абагнаць яе па якасці судовай сістэмы**

Успрыманне фашызму ў якасці вышэйшай формы нацыяналізму — тыповы прыклад пабытавага разумення праблемы. Яно цалкам пасуе для пікніка на прыродзе пад самагонку і шашлык. Але ж не на такі ўзровень прэтэндуе аўтар цытаты з газеты «СБ. Беларусь сегодня», ці я памыляюся?

## Што застаецца?

Каб рухацца далей, я прывяду яшчэ адну цытату з манаграфіі: «Фашызм — зусім не тупіковая галіна развіцця сучаснага грамадства. У XX стагоддзі ён быў адной з вядучых палітычных дактрын сусветна-гістарычнага значэння. І цалкам верагодна, што той жа фашызм, хоць, хутчэй за ўсё, пад іншым імем, зможа адыграць важкую ролю і ў XXI стагоддзі. Фашызм — гэта адметная рыса сучаснасці».

Прашу звярнуць увагу на апошні сказ цытаты. Фашызм не ўчора нарадзіўся, і Нюрнбергскі працэс рысу пад ім не падвёў. Фашызм не варта зводзіць да палітычных практык ашалелых дучэ і фюрэра. «Фашызм, — тлумачыць гісторык Ілля Герасімаў, — гэта пра правал мадэрнасці ў масавым грамадстве з-за слабасці палітычных інстытутаў і здрады інтэлектуалаў».

Як тут не прыгадаць байку «Ліса і вінаград». Яе гераіня не здолела справіцца з выклікам сучаснасці — і адмовіла выкліку ў праве на існаванне. Вось так і цэлыя народы часам вяртаюцца ў архаіку, бо не паспяваюць за дынамічнымі пераменамі.

Многія еўрапейскія народы сутыкнуліся з гэтай праблемай яшчэ ў першай палове XX стагоддзя (Італія, Германія, Аўстрыя, Іспанія, Румынія, Балгарыя і г. д.). Расійская імперыя — з-за слабага развіцця трэцяга саслоўя (буржуазіі) — знайшла свой адказ на выклік мадэрнасці: бальшавізм.

Беларуская мадэль — гэта яшчэ адна спроба ўпісацца ў сучаснасць шляхам запазычванняў заходніх тэхналогій і закупкі абсталявання, але нічога не змяняць пры гэтым у сацыякультурнай сферы.

Асноўным вынікам мадэрнізацыі дзяржаўных прадпрыемстваў, што была абвешчаная ў 2013 годзе (гл. табліцу), сталі страты, і ад яе давялося адмовіцца. Што засталося? Стандартны для сусветных лузераў набор развагаў: адданасць традыцыйным каштоўнасцям, дэградацыя Захаду, зайздрасць суседзяў з-за нашай стабільнасці, імпартазамяшчэнне і іншыя нікому ў свеце не цікавыя рэчы.

**ЧАСТАТА ЎЖЫВАННЯ СЛОВА «МАДЭРНІЗАЦЫЯ» Ў ПАСЛАННЯХ АДЗІНАГА ПАЛІТЫКА**

| 2003 | 2004 | 2005 | 2006 | 2007 | 2008 | 2009 | 2010 | 2011 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 2 | 3 | 2 | 6 | 3 | 3 | 9 | 9 |
| 2012 | 2013 | 2014 | 2015 | 2016 | 2017 | 2018 | 2019 | 2020 |
| 6 | 49 | 19 | 3 | 3 | 1 | - | 3 | 2 |

Усё вышэйпералічанае і яшчэ многае з таго, што засталося за дужкамі, пацвярджае правал мадэрнасці. Фашызацыя ўнутранай палітыкі — натуральная рэакцыя на чарговую спробу калі і не перагнаць прамыслова развітыя краіны, то хаця б скараціць адставанне ад іх.

Для тых жа, у каго слова, якое прыйшло да нас з італьянскай мовы, выклікае негатыўныя асацыяцыі, можна знайсці іншыя словы. Але справа не ў словах. Пры дапамозе паўтору правільных слоў нават смаку халвы адчуць у роце не атрымліваецца.

## Пра тры віды сукна

Развіццё азначае дыферэнцыяцыю. Але чым больш інтэнсіўна з калісьці адзінай (традыцыйнай) культуры вылучаюцца лакальныя субкультуры (напрыклад моладзевыя), тым складаней знаходзіць агульны інтарэс, без якога з асобных грамадзян немагчыма фарміраваць грамадства.

У фашызму ёсць свой варыянт вырашэння галоўнай сацыяльнай праблемы. Ён прапануе своеасаблівую палачку-ратавалачку ў выглядзе ўладнай "вертыкалі". З яе дапамогай, на думку адзінага палітыка (АП), быў пераадолены хаос «ліхіх 90-х». З яе дапамогай плануецца і не трапіць на ўзбочыну сусветнага развіцця, сучасны этап якога заключаецца ў пераходзе ад індустрыяльнай эканомікі да постіндустрыяльнай.

Поспехі беларускага Парка высокіх тэхналогій дазвалялі спадзявацца на магчымасць такога пераходу. У 2019 годзе ПВТ экспартаваў паслуг на $2,2 млрд (+$0,8 млрд да 2018 года). Ён практычна на 100 % забяспечыў рост экспарту паслуг па краіне. Але які будзе вынік гэтага года і года наступнага, калі «эфект 9 жніўня» адаб'ецца ў поўнай меры? Пажывём — пабачым.

Але поспехі ў эканоміцы, насуперак уяўленням марксістаў савецкага і постсавецкага разліву, — толькі вынік ад поспехаў у сацыяльнай і палітычнай сферах. Постіндустрыяльную эканоміку без постіндустрыяльнага грамадства не пабудаваць. Ахвочым абагнаць Еўропу па якасці аўтамабіляў неабходна спачатку абагнаць яе па якасці судовай сістэмы.

У сувязі з гэтым прывяду фрагмент з «Адэскіх апавяданняў» Ісаака Бабеля, які днямі нагадаў слухачам «Эхо Москвы» палітолаг Уладзімір Пастухоў: «Ведаеце, у чым розніца паміж брытанскім сукном, польскім сукном і маскоўскім сукном? Брытанскае сукно — гэта сапраўднае сукно. Польскае сукно — гэта лайно ў кветачкі. А маскоўскае сукно — гэта проста лайно».

Гэтую цытату палітолаг прывёў для ілюстрацыі якасці беларускай выбарчай сістэмы. Зрэшты, нічога новага чытачам «НЧ» ён не паведаміў.

# Ці хутка нам прапануюць «зацягнуць паясы»?

Таццяна ЛІСІЧЭНКА



**Як і варта было чакаць, эканоміка Беларусі істотна прасядае. Яе падзенне прагназавалася яшчэ да абвяшчэння прэзідэнцкіх выбараў: сусветныя эканамісты прадракалі ў 2020 годзе крызіс, які наклаўся на эпідэмію COVID-19. У выніку ўсе негатыўныя працэсы ў сусветнай эканоміцы спісалі на вірус, а ў Беларусі — яшчэ і на палітычную нестабільнасць, выкліканую жорсткім супрацьстаяннем улады народу.**

## Грошай няма, але вы трымайцеся

Заканчвае 2020 год Беларусь з досыць цікавымі лічбамі. Па даных Мінфіна, знешні дзяржаўны доўг па стане на 1 лістапада 2020 года склаў 18,1 млрд долараў ЗША, павялічыўшыся з пачатку года на 1 млрд долараў. Вядома, палову гэтай сумы склаў крэдыт Еўразійскага банка рэканструкцыі і развіцця, выдаткаваны нам у кастрычніку і амаль цалкам пакінуты ў Расіі як доўг за газ. Яшчэ мільярд міжбанкаўскага крэдыту Расіі нам маюць намер вылучыць толькі ў канцы гэтага — пачатку будучага года. У суме гэта тыя самыя 1,5 млрд, пра якія дамовіліся Лукашэнка і Пуцін.

Такім чынам, беларуская эканоміка зноў залезіць у даўгі. А доўг прыйдзецца аддаваць. Чым урад будзе яго аддаваць — незразумела. Улада пакуль можа залезці ў міжнародныя рэзервовыя актывы Рэспублікі Беларусь (гэта значыць, у залатавалютныя рэзервы), але яна і так гэта паспяхова робіць. На 1 кастрычніка 2020 года ЗВР склалі 7321,4 млн долараў ЗША (у эквіваленце), гаворыцца ў паведамленні Нацбанка. За верасень 2020 года рэзервы зменшыліся на 136,4 млн долараў (на 1,8%) пасля зніжэння ў жніўні на 1399,6 млн долараў (на 15,8%).

Варта адзначыць, што згодна з асноўнымі кірункамі крэдытна-грашовай палітыкі на 2020 год, аб'ём міжнародных рэзервовых актываў на 1 студзеня 2021 года павінен скласці не менш за 7,3 млрд долараў ЗША. Гэта значыць, ужо па выніках верасня ЗВР апусціліся практычна да ўзроўню, запланаванага на канец года. Пры гэтым на пачатак года рэзервы складалі амаль 9,4 млрд долараў — гістарычны максімум для Беларусі.

То-бок, за мінулыя месяцы краіна прымудрылася кудысьці страціць больш за 3 млрд долараў: два ў выглядзе скарачэння ЗВР, і яшчэ адзін — у форме знешняга доўгу.

Даходы рэспубліканскага бюджэту склалі 19,6 млрд рублёў, або 77,1% удакладненага гадавога плана, выдаткі — 20,2 млрд рублёў, або 72,4% удакладненага гадавога плана. Дэфіцыт рэспубліканскага бюджэту склаўся ў памеры 0,6 млрд рублёў, паведаміла прэс-служба Мінфіна. Краіна вымушаная эканоміць на выдатках, таму што не дабірае даходаў. За два месяцы трэба сабраць практычна чвэрць — 23% ад гадавога плана — даходаў, каб наш бюджэт (і так першапачаткова дэфіцытны) больш-менш сышоўся.

## Як і што прадаць

Для таго, каб грошы былі, можна, па словах ката Матроскіна, «прадаць што-небудзь непатрэбнае». Непатрэбнага ў нас — завалісся. Толькі купляць яго ў нас пакуль ніхто не збіраецца. Экспарт няўхільна падае, гандаль з Захадам знізіўся аж на 16 %.

Напрыклад, экспарт у Вялікабрытанію сёлета ўпаў на 66%, у Нідэрланды — на 42,6%. «Мінус» Латвіі — 34%, Украіны — 30%, ЗША — 17,6%, Польшчы — 11%. Самыя крыўдныя, вядома, першыя дзве пазіцыі: у Вялікабрытанію і Нідэрланды экспартуюцца беларускія нафтапрадукты. У гэтым годзе Беларусь экспартавала іх за восем месяцаў гэтага года толькі на 1,7 млрд долараў, што ў 2,3 разы менш, чым у мінулым годзе.

Можна нават выказаць здагадку, што раней «залатаносная» нафтанка ў гэтым годзе прайграе «беднаму і галотнаму» аграпрамысловаму сектару, які, афіцыйна генеруючы страты, экспартаваў у мінулым годзе прадуктаў на 5,5 млрд долараў. Аднак пытанне ў тым, што наша сельгаспрадукцыя ідзе на экспарт у асноўным у Расію і краіны ЕАЭС, а з імі ў нас — адмоўнае сальда гандлёвага балансу (гэта значыць, у іх мы купляем больш, чым прадаем). У той час як Вялікабрытанія, Нідэрланды, Украіна і Латвія нам давалі чысты прыток валюты, а не яе адток.

## Паясы зацягнуцца на горле?

Грошы, як вядома, маюць уласцівасць заканчвацца, і ў нашым выпадку могуць скончыцца раптоўна — асабліва калі Еўропа хутка і эфектыўна ўвядзе трэці пакет санкцый у дачыненні да Беларусі, якія прадугледжваюць эканамічны ціск на дзяржаўны сектар эканомікі і набліжаны да ўлады бізнес.

У выпадку практычна поўнай адсутнасці знешняга фінансавання або непрымальных яго ўмоў, адкуль Беларусь можа адшукаць рэзервы? Тое, што Лукашэнка ў чарговы раз папросіць беларусаў «зацягнуць паясы», — гэта да варажбіткі не хадзі. Але ці ёсць што зацягваць?

Эканаміст Леў Марголін кажа, што беларускія грамадзяне зацягнуць паясы яшчэ могуць. «У беларусаў заўсёды былі два рэзервы — гэта заначкі, калі яны ў кагосьці засталіся, і падсобныя прысядзібныя гаспадаркі і дачы. Іншых рэсурсаў для зацягвання паясоў у нас няма. Трэці рэсурс — сабраць валізкі і зваліць куды-небудзь, дзе сітуацыя больш добрая, — не для ўсіх. Ён пасуе тым людзям, у якіх ёсць добрая спецыяльнасць і запатрабаваная прафесія, хто ў гэтай прафесіі чагосьці дамогся. Аднак такіх людзей не вельмі шмат. Астатнім застаюцца толькі заначкі і падножны корм», — мяркуе Леў Марголін.

Што ж тычыцца дзяржавы, то ў яе, на думку спецыяліста, таксама два шляхі. «Першы — дзяржава прыпадабняецца суседу-алкаголіку, які, калі ў яго сканчаюцца грошы, ходзіць па кватэрах ды спрабуе ў каго-небудзь што-небудзь выкленчыць, б'е сябе кулаком у грудзі, што гэта ў апошні раз, што больш такога не будзе, і што ён ужо ўладкаваўся на працу і прыступае з заўтрашняга дня. Сапраўды, гэтак жа і наша дзяржава. Калі атрымаецца нешта ў кагосьці выпрасіць — добра. Калі не атрымаецца, прыйдзецца ўключаць друкарскі станок», — разважае Марголін.

І, як бы не супраціўляўся друкаванню грошай Нацбанк, але ў канчатковым выніку іншай магчымасці проста не застанецца: трэба плаціць пенсіі, зарплаты бюджэтнікам. «Паспрабуйце зараз не заплаціць лекарам ва ўмовах COVID-19!» — кажа Марголін. Іншая справа, што напампоўка эканомікі «пустымі» грашыма прыводзіць да самых сумных наступстваў.

## Рызыка — справа невысакародная

У сучасных палітычных умовах на якія-небудзь крэдыты з боку Захаду ці нават Кітая разлічваць не прыходзіцца. Застаецца спадзявацца на Расію. Але, у адрозненне ад «мядовых гадоў», калі Расія гатовая была ва ўсім падтрымліваць Беларусь (праўда, часам у канцы года ўзнікалі канфлікты з нагоды коштаў на энерганосьбіты, але яны практычна заўсёды вырашаліся станоўча для Беларусі), цяпер Расія не згодная даваць безумоўныя крэдыты, — крэдыты без палітычных і эканамічных умоў кшталту правядзення канстытуцыйнай рэформы, інтэграцыі манетарнай або падатковай сістэм.

Акрамя таго, Расія цяпер сама ў пазіцыі чакання. Новаабраны амерыканскі прэзідэнт Джо Байдэн выразна выказаўся наконт Беларусі, але да гэтага часу не сказаў, як ён будзе будаваць адносіны з Расіяй. А ад гэтага залежыць, напрыклад, курс расійскай валюты, а значыць — і беларускага рубля.

Канечне, у якасці крыніцы грошай могуць выступіць беларускія «блакітныя фішкі» (акцыі найбольш буйных, ліквідных і надзейных кампаній са стабільнымі паказчыкамі даходнасці, а таксама самі гэтыя кампаніі). Раней Лукашэнка выстаўляў за тыя ж «Нафтан» або «Беларуськалій» завоблачныя кошты, але цяпер для захавання ўлады ён можа пайсці на тое, каб, груба кажучы, знізіць кошт, і можа пачаць гандляваць «блакітнымі фішкамі», каб фінансаваць утрыманне ўласнай улады. Іншымі словамі, рэжым можа пачаць па зніжцы (а сапраўдную цану ў цяперашняй нестабільнай сітуацыі ніхто і не дасць) распрадаваць народны здабытак.

Пытанне ў тым, «купіцца» на гэтыя прапановы хто-небудзь. «Бо купляць беларускія "фішкі" будзе, хутчэй за ўсё, не Расія як дзяржава, а канкрэтныя прадпрымальнікі і бізнесоўцы, — тлумачыць Марголін. — Яны не могуць не разумець: нелегітымнасць беларускага пакуль яшчэ кіраўніка дасягнула такога ўзроўню, што новая ўлада цалкам можа прызнаць усе гэтыя здзелкі нікчэмнымі, прычым без вяртання выдаткаваных сродкаў. Калі ў сітуацыі з "Белтрансгазам" была абумоўленая магчымасць яго вяртання ва ўласнасць дзяржавы з адпаведнай кампенсацыяй, то тут кампенсацыі не будзе».

Гэтую рызыку варта ўлічваць жадаючым «пагрэць рукі» на беларускай сітуацыі.

## Самы просты выхад

На думку Марголіна, самы просты выхад з сітуацыі — гэта змена ўлады і рэформы, у першую чаргу, палітычныя. Яны дазволяць прыцягваць інвестыцыі, бо ў сітуацыі дзяржаўнага безграшоўя мы апынуліся менавіта па палітычных прычынах. Іншых варыянтаў паляпшэння эканамічнай сітуацыі не прагладаецца.

# Тут паўсюль і навокал

Ганна ШАПУЦЬКА

**Актывістку Курапацкай варты Ганну Шапуцька затрымалі 31 кастрычніка разам з мужам Віктарам і паплечнікам Рыгорам Асаулам. 2 лістапада іх асудзілі на суткі. Пра свае 15 сутак, пра свой шлях па маршруце «Курапаты — Акрэсціна — Жодзіна» спадарыня Ганна распавядае чытачам «НЧ».**




## Затрыманне

Курапаты перад Дзядамі. Вечарэе. Прыціх Курапацкі лес, не чутна ні подыху сосен, ні птушыных спеваў. Пасля Талакі Крыжовы Шлях і пазападзіны прыбраныя, падрыхтаваныя да сустрэч з нашчадкамі, усё неяк урачыста, адчуванне супакою. Мы запалілі зніччкі і ідзём на Курапацкую варту да рэстарацыі «Поедем поедим», пабудаванай вандаламі ў ахоўнай зоне мемарыяла Курапаты, у 50 метрах ад месца масавага знішчэння дзяржавай Сталіна тысяч і тысяч нашых суайчыннікаў. Ідзём, разважаем, як жа правільна сказаў Уладзімір Караткевіч:



«Хто не памятае мінулага, хто забывае мінулае, асуджаны зноў перажыць яго. Безліч разоў».

На жаль, людзі не жадаюць глядзець праўдзе ў вочы. Ім прасцей абмежавацца, схавацца за плотам рэстарацыі, ладзіць вяселлі, скакаць на батутах, піць, гуляць, смажыць шашлыкі. Угаворваць сваё сумленне, што забівалі ж у 50 метрах ад рэстарацыі, што толькі адзін разок пагуляем і больш не паедзем. А ў гэты час Зло прарастае праз іх сэрцы, душы, і дазвол піць і гуляць побач з чалавечым могільнікам пераўтвараецца ў дазвол забіваць. І ўжо кроў новых ахвяраў льецца на шматпакутнай беларускай зямлі, паўстаюць новыя мемарыялы, да якіх адныя нясуць кветкі і зніччы, а другія разбураюць і танчаць ужо на іх. Як спыніць гвалт, як зрабіць так, каб людзі пачалі чорнае называць чорным, а белае белым...

Прыйшлі да рэстарацыі Смерці, так яе называюць у народзе, дасталі ўлёткі, узнялі БЧБ сцягі, бо БЧБ сцяг — сцяг Перамогі над Смерцю, у чырвоным колеры якога — кроплі крыві, у тым ліку курапацкіх ахвяраў. Не прайшло і паўгадзіны, як мы ўбачылі: на вялікай хуткасці на нас нясецца белая легкавая машына. Падумалася, што чарговыя вандалы спяшаюцца на гулянку ў рэстарацыю. Рыхтуемся да размовы, працягваем улёткі. Машына рэзка спыняецца, з яе кулямі вылятаюць трое мужчынаў у балаклавах і, не прадставіўшыся, не папярэдзіўшы ні аб чым, крычаць: «Вы затрыманыя, сядайце ў машыну!» Зрываюць сцягі, запіхваюць разам з намі ў салон, іх трое і нас трое. І мы нясёмся разам з імі ў іншую рэальнасць — рэальнасць рэпрэсаванай Беларусі. Здаецца, час спыніўся і ўсё блізкае і любімае засталося недзе ў іншым вымярэнні.

У галаве адна за адной праносяцца думкі, як жа не ў час гэтае затрыманне: зяць у шпіталі з ковідам, дачка цяжарная з двума малымі дзеткамі на руках, 93-гадовая матуля мужа чакае заўтра нас у вёсцы. Напэўна, нельга быць гатовым да затрыманняў, хоць і думаеш пра іх верагоднасць пастаянна. Але ж праз некалькі хвілінаў ты прымаеш новую рэальнасць, пачынаеш дзейнічаць у іншых умовах. Я паспела скінуць смс дачцэ і сяброўцы пра нашае затрыманне. Дзякуй Богу, усе праблемы вырашыліся годна і добра.

Прывезлі ў Савецкі РУУС. Дворык. Сценка. Стаім тварам да сценкі, рукі за спінай, цёмна, у вокнах дамоў запаліліся святло. Думаецца, як жа ўсё добра бачна з гэтых акон. Напэўна, 9—11 жніўня шмат хто з жыхароў бачыў і чуў, як каталі тут людзей. У мяне не было ніякіх сумневаў адносна таго, што з намі будзе. Перажывала, каб не білі мужчын. Але ж міліцыянты настроены былі не агрэсіўна, ім быццам няёмка было перад намі, напэўна, не так проста затрымліваць жанчын і мужчын узросту сваіх бацькоў, магчыма, каманды «фас» не было.

Адабралі рамяні, шнуркі, скралі сцягі і БЧБ шалік (у адным з пакойчыкаў я заўважыла на падлозе цэлы стос БЧБ сцягоў), адкаталі адбіткі пальцаў, фота. Неяк усё марудна і доўга. Размова з міліцыянтамі ішла вакол іхняга лёсу пасля адхілення Лукашэнкі ад улады. Яны вельмі баяцца за свае сем'і і жыцці, разумеюць, што міліцыя пераўтварылася ў бандфармаванні, у гвалтаўнікоў і забойцаў, але ж апраўдваюць сябе: маўляў, яны толькі выконваюць загад. Размова не клеілася. І ўсе былі радыя, калі нарэшце нас павезлі на Акрэсціна.

Везлі ў звычайным бусіку, праз вокны якога мы любаваліся вечаровым Менскам, бо забягаючы наперад скажу, што з акон Акрэсціна і Жодзіна не бачна нічога.

На Акрэсціна нас хутка рассялілі па камерах. І гэта была ўжо новая рэальнасць, новая старонка жыцця, даволі цікавая.

## Курапацкая варта на Акрэсціна

Нас чацвёра ў камеры. Знаёмімся. Дзве жанчыны затрыманыя пасля выканання «Магутнага Божа» ў Оперным, яны з «Вольнага хору». Адна з іх, Наталля, працуе ў дзяржфілармоніі, у яе прыгожы, чысцюткі, нябесны голас. Яе сяброўка — свякроў нашай опернай спявачкі Маргарыты Ляўчук. Яшчэ адна дзяўчына затрыманая як адміністратар тэлеграм-канала дворыка каля «Рыгі». Агульную мову знаходзім адразу. Дзелімся навінамі. Фактычна з першых хвілін дамаўляемся працягваць справу «Вольнага хору» тут, за кратамі. І неўзабаве ў нашым выкананні загучалі «Купалінка», «Магутны Божа», «Пагоня». Вязні суседніх камер віталі нашыя спевы апладысментамі і воклічамі «Жыве Беларусь!».

«Жыве Беларусь» тут паўсюль: на сценах, на кубках, на турэмных талерках. Здавалася, мы ў самым сэрцы змагання. Не пакідала адчуванне містычнага, асабліва калі ведаеш, што ў жніўні тут лілася кроў, гучалі крыкі, панаваў боль, страх.

Я хутка ачуняла. Мне не было ні страшна, ні няўтульна. Курапацкая варта перанеслася на Акрэсціна. Я была сярод сваіх. Змаганне не спыняецца за кратамі. Гэта факт.

## «Запіскі кантрабандыста»

Тым не менш пацыху ў сэрца закраліся сум і адчай, бо не ведала, што там на волі, як дачка. Паспрабавала перабіць сум чытаннем. У камеры на Акрэсціна было некалькі кніжак, на беларускай мове была адна — «Каханак Вялікай Мядзведзіцы» Сяргея Пясецкага (запіскі кантрабандыста). Захапіла.

У кнізе былі парады, як паводзіць сябе падчас доўгага зняволення. Самае галоўнае — не пускаць сум у сваю душу, бо ён з'ядае чалавека хутка. Трэба распрацаваць рэжым на ўвесь дзень і яго прытрымлівацца, як бы цяжка ні было, рабіць усе дробныя справы, як самыя важныя і неабходныя. З гэтага моманту я так і рабіла. Складала сабе рэжым фактычна пахвілінна і прытрымлівалася яго. Час ляцеў. Вельмі дапамагалі нашыя вольныя спевы.

## Суд

Арыштаваныя, але не асуджаныя вязні, без шнуркоў і рамянёў стаяць тварамі да сценаў. Наглядчык-мацюгальнік пакрыквае на іх здалёк, каб рукі за спіной трымалі. Міліцыянты-сведкі разам з начальнікам стаяць побач і адчуваюць сябе не ў сваёй талерцы, ім няўтульна, але ж трэба адыграць сваю ролю сведкаў-абвінаваўцаў. Людзей аднаго за адным запрашаюць у маленькі пакойчык, дзе на стале стаіць комп, а з экрана глядзіць на цябе суддзя. Яго задача разыграць прадстаўленне хуценька і адправіць цябе назад у камеру, абцяжараннага 15 соднямі арышту. Судовая расправа над правам абстаўленая так, што інакш як цыркам гэта не назавеш.

— Пригласите свидетеля, — кажа мой суддзя С.В. Шаціла начальніку міліцыянтаў.

Заходзіць мужчына гадоў пад 50, кепка нацягнутая на лоб, каб вачэй не было бачна, на твар насунутая маска. Кажа: я сведка, прозвішча Бельскі Н.А., мне 22 гады. Спрабуе сфармуляваць фразу аб маім затрыманні.

Я як сядзела побач з ім, так і выбухнула смехам, аж суддзя па той бок экрана ўздрыгнуўся і заклікаў мяне да парадку. Тым не менш суддзя прызнаў у 50-гадовым мужчыне 22-гадовага пацана. Чым увагнаў у чырвоную фарбу міліцыянтаў і выклікаў чарговы выбух смеху ў залі. На такой вясёлай ноце і скончылі прадстаўленне пад назвай «суд».

Суддзя вынес мне 15 сутак і я, сказаўшы ім усім: «Ганьба», пайшла назад у камеру. На душы было светла, спакойна: перад прысудам мяне адвялі ў карцар. Там былў прымацаваны да сценкі ложак, маленькі табурэт прышрубаваны да падлогі, збоку прыбіральня і маленечкае акенца. Сэрца маё ледзь не спынілася, бо на маленькім табурэцэ я пабачыла надрапаны і адпрацаваны надпіс «Малады Фронт». Я ўявіла хлопцаў і дзяўчат-маладафронтаўцаў, якія тут пабывалі не аднойчы, і мне стала наогул лёгка і вольна. Не разбіць, не стрымаць! Жыве Беларусь!

## Фальсіфікацыя справы

На трэці дзень да нас у камеру перавялі дзвюх дзяўчат, затрыманых падчас акцыі. Маладзёны схаваліся ў пад'ездзе аднаго з дамоў ад АМАПу і святлашумавых гранат, але ж сталіністка-бабуля здала іх на расправу. Адна з дзяўчат — высокая прыгожая Вольга — плакала. Пад ціскам супрацоўнікаў міліцыі, баючыся за сваіх бацькоў і брата, Вольга прызнала сваю віну ў тым, што не рабіла — кідала камяні ў Цэнтральны РУУС. Вольгу некалькі разоў вазілі на допыт, прыязджалі і на Акрэсціна, запісвалі на відэа і пасля паказвалі на БТ. Разам з Вольгай цягалі двух хлопцаў з суседняй камеры. Адзін з іх Эрык Арлоў з Купалаўскага тэатра. Хлопцы наогул адмаўляліся размаўляць з супрацоўнікамі праваахоўных органаў.

Распавяла Вользе пра справу Святаслава Барановіча, які таксама напачатку следства сведчыў супраць сябе, растлумачыла, наколькі важна зараз адмовіцца ад паказанняў пад ціскам, распавесці пра ўсё ў СМІ, праваабаронцам, даводзіла, што ціск на бацькоў стане яшчэ больш, калі яна будзе баяцца і агаворваць сябе. Вольга згадзілася, але ж было бачна, што яна не разумее да канца цынізму сілавікоў, гатовых пасадзіць невінаватую дзяўчыну за краты.

Дзякуй Богу, справу перадалі ў СК і Вользе далі адваката, якая параіла ёй тое ж самае. Ды і паказала на мапе, што Вольга фізічна знаходзілася зусім у іншым месцы, далёка ад будынка Цэнтральнага РУУСа, і ніяк не магла кідаць у яго камяні. Вольга крыху ачуняла. Баялася вельмі, што яе могуць затры-

# «Жыве Беларусь!»

маць і пасадзіць на Валадарку па гэтай крымінальнай справе. Спадзяюся, яе ўсё ж вызвалілі і сфальсіфікаваная справа развалілася.

### Этап у Жодзіна

У чацвер увечары я атрымала перадачку на Акрэсціна. Вялікі дзякуй дачцэ, сябрам, валанцёрам, бо не было з сабой ні запасной бялізны, ні зубной шчоткі, ні тым больш начной маскі на вочы — святло ў камеры не выключалася, і заснуць было цяжкавата. Вельмі не хапала пітной вады, вада на Акрэсціна з-пад крана вельмі дрэннай якасці, таму, канечне, перадачак чакаюць усе вязні.

Але ж не ўсе атрымліваюць, бо адміністрацыя турмы ладзіць масавае этапаванне ў Баранавічы, Жодзіна якраз у чацвер, калі родныя стаяць у вялізных чэргах з перадачкамі. Гэта катаванне і вязняў, і іх родных, гэта здзек з чалавечай годнасці і дробная помста мелкіх людзішак. Забягаючы наперад скажу, што ў жодзінскай турме маю перадачку наогул скралі. Дачка ехала, везла, перадала, а мне так ніхто яе і не аддаў, як кажуць хлопцы, «скрысятнічалі» супрацоўнікі. Але на Акрэсціна мне пашанцавала, і на этап у Жодзіна я паехала падрыхтаваная.

У пятніцу ранічай пагрукалі ў дзверы камеры і абʼявілі, што этапуюць. Праз паўгадзіны нас, 20 чалавек, чатыры з якіх жанчыны, размясцілі па чатыры чалавекі ў закратаваныя камеры аўтазака. Два здаравенныя дзецюкі-ахоўнікі разваліліся на лаве насупраць нас, паўтыкаліся насамі ў свае тэлефоны, час ад часу лаючыся матам на вязняў, каб не размаўлялі. Даехалі даволі хутка. У Жодзіна нас правялі па катакомбах-тунелях, і канваір у балаклаве роў на хлопцаў матам. Было адчуванне, быццам мы апынуліся на здымках фільма. Што я змагла ацаніць — гэта моц камунікацый пад жодзінскай турмой. На няўстойлівую псіхіку, думаю, гэта ўздзейнічае. Але ж я назірала за ўсім з вялікай цікавасцю.

Нас даволі хутка развялі па камерах, і я апынулася на першым паверсе аднаго з карпусоў турмы ў камеры на 10 чалавек. Па перыметры пяць двухпавярховых металічных ложкаў, пасярэдзіне да падлогі прышрубаваны стол і дзве лавы, прыбіральня з аднаго боку, закрытая белым спанбондам (дзяўчаты змайстравалі), насупраць шафа з асабістымі рэчамі — прадуктамі, сродкамі гігіены, кнігамі, часопісамі. За сталом сядзелі дзяўчаты і вельмі ветліва на нас глядзелі.

І тут былі ўсе свае, палітычныя, і тут паўсюль і навокал «Жыве Беларусь!».

### Беларуская мова. Сустрэчы

Пасля затрымання я адразу для сябе вырашыла размаўляць толькі па-беларуску, што б там ні адбылося. Ніхто не выказваў негатыву, наадварот, дзяўчаты выбачаліся, што не размаўляюць самі, ахоўнікі ставіліся нармальна.

І як жа прыемна было, калі пачуўся лязг металічных завалаў, адчыніліся дзверы камеры і зайшла танюткая дзяўчынка ў доўгай-доўгай фіялетавай сукенцы. Быццам праменьчык сонейка завітаў да нас у хату. Крок наперад, і мы абдымаемся. Мы ведаем адна адну, мы не аднойчы сустракаліся ў Курапатах. Аксана, каталіцкая верніца, выкладчыца, перакладчыца, журналіст і любімая выхавацелька майго ўнука Дамініка. Яе затрымалі на Курапацкім маршы, яна здымала на відэа затрыманні людзей і сама стала ахвярай. Аксана прыгожа размаўляе па-беларуску, і я адчула палёгку.

Праз некаторы час да нас ізноў пагрукалі. І праз хвіліну мы знаёмімся з нашымі легендарнымі музыкамі-барабаншчыцамі Кацярынай і Алінай, якіх затрымалі разам з усёй камандай і інструментамі на рэпетыцыі перад Маршам. Я проста не магла паверыць сваім вачам, што ўсе гэтыя людзі сабраліся тут, побач са мной. Пытанне існавання «Вольнага хору» ў нашай камеры ў Жодзіна вырашылася адразу. Дзяўчаты падхапілі ініцыятыву, нашыя вечаровыя спевы не спыняліся, супрацоўнікі не перашкаджалі нам, рэпертуар налічваў больш за 20 песень. Вольны Дух панаваў у жодзінскай турме.

У нас выпрацаваўся рэжым, дзякуючы якому дні ляцелі даволі хутка. Кацярына ведала фітнес для твару, займалася адзінаборствамі. Мы з задавальненнем далучыліся да яе штодзённых трэніровак, і яны сталі неадʼемнай часткай нашага жыцця. Гэта вельмі дапамагала і стымулявала. Аксана прынесла з сабой кнігу Горвата «Радзіва "Прудок"».

Ніколі не адчувала такой асалоды ад чытання, смакавала кожнае слова, кніга перанесла мяне ў тую рэальнасць, дзе былі мае родныя, было ўсё тое, што я так люблю, злучыла мяне з імі. Цудоўная кніга.

Не хапала інфармацыі з волі. Мы не ведалі, што там адбываецца, хваляваліся за Маршы, за Варту, вельмі хацелася, каб не спыняліся пратэсты. У камерах ніхто спыняцца не збіраўся, хоць былі дзяўчаты, што адбывалі содні па другім разе. Адзінае, што магло прыпыніць наш удзел, — гэта абмежаванні па крымінальных справах і здароўе.

У нядзелю ўвечары мы ўжо разумелі, што чарговы Марш адбыўся і людзей было вельмі шмат. Аўтазакі з затрыманымі ехалі і ехалі ўсю ноч, пасля яшчэ і дзень панядзелка. Хлопцаў-дзяўчат групамі ставілі ўздоўж сцен на першым паверсе, і мы чулі, як яны дыхалі, бо




дзверы, хоць і металічныя, але ж прапускаюць усе гукі. Адным этапаваным шанцавала, і засяленне адбывалася спакойна і хутка. На другіх супрацоўнікі лаяліся матам, прымушалі ставіцца на калені. Усё залежала, як я зразумела, ад канваіраў. Чула, як называлі прозвішча Андрэя Ягорава, падумала, фактычна ж другі раз запар арыштавалі хлопца. Чула, як нехта патрабаваў ад супрацоўнікаў не ўжываць нецэнзурную лексіку, што было вельмі рызыкоўна ў дадзеных умовах.

Аднойчы прывезлі затрыманых днём і вельмі агрэсіўна да іх ставіліся. Мы не вытрымалі крыкаў ахоўнікаў і пачалі спяваць «Магутны Божа» — малітву, каб спыніць гэтую хвалю агрэсіі. Хутка пачуўся моцны грук дручком у нашы дзверы, маўляў, спыняйце свае спевы. «Мы молімся», — адказала я, і мы працягнулі спяваць. За дзвярыма супакоіліся, сцішыліся.

### ГУБАЗіК

У Жодзіна да вязняў прыязджалі супрацоўнікі ГУБАЗіКа. Аднойчы адчыніліся дзверы нашай камеры і зайшоў малады афіцэр у форме, з медалямі. Нас пашыхтавалі ўздоўж ложкаў і пачалі перапісваць прозвішчы. На просьбы назваць сябе — маўчанне і ігнор. Пасля з-за дзвярэй паказаўся твар чалавека, якога адна дзяўчына апазнала як супрацоўніка ГУБАЗіКа. Ён быў разам з чалавекам у аліўкавай форме і з цікавасцю назіраў за намі, спрабаваў жартаваць, яму было весела.

Праз некаторы час на размову выклікалі па чарзе музыку Кацярыну і прыхільніцу анархісцкага руху 22-гадовую Карыну. Карына бачылася з гэтым чалавекам не першы раз. Ён вельмі жорстка і балюча яе затрымліваў, калі яна сустракала сваіх сяброў з жодзінскай вязніцы. Дзякуючы гэтаму чалавеку яна і апынулася за кратамі. Ён прыйшоў да Карыны з пагрозамі, што яна адсюль не выйдзе, прыйшоў з відэа, на якім закатаваны, збіты актывіст і журналіст Мікола Дзядок нешта казаў на камеру. Прыйшоў паздзекавацца, атрымаць асалоду, працягнуць катаванні дзяўчыны.

З Кацярынай ён паводзіў сябе па-іншаму, спрабаваў выклікаць станоўчыя эмоцыі, давер. Але ж Кацярына ў жніўні дапамагала валанцёрам на Акрэсціна і бачыла на свае вочы збітых, згвалтаваных людзей. Яна эмацыйна сказала супрацоўніку ГУБАЗіКа: маўляў, навошта збівалі, гвалтавалі, а зараз хочаце спыніць пратэсты. Працяг размовы мы ўжо пачулі ў калідоры, калі той аджартоўваўся: вы ж, Кацярына, там не былі і не ведаеце, пра што кажаце. Кацярына ў слязах спрабавала яму давесці, што ведае. А я запытала, а ці быў ён сам там, ці ведае, пра што кажа? Ён адказаў, што быў. Нашыя дзяўчаты сказалі яму: добра, што самі прызналіся, мы гэта запомнім.

Пасля вызвалення я даведалася, як жорстка затрымлівалі Міколу Дзядка, як не менш жорстка абышліся з Ігарам Аліневічам, раней затрыманым Аляксандрам Францкевічам. Даведалася, што фабрыкуецца страшная справа супраць анархістаў, і нам усім трэба пільна сачыць за лёсам хлопцаў і не пакідаць іх сам-насам з гэтай антычалавечнай сістэмай.

Шмат можна распавядаць пра зняволенне. Столькі цудоўных людзей, столькі гісторый, столькі ўражанняў. Самай маладой з нас было 18, самая старэйшая я — мне 56. Сярэдні ўзрост зняволеных дзяўчат 28—30 гадоў, усе маладыя, прыгожыя, ініцыятыўныя, крэатыўныя, уважлівыя і салідарныя. Я вельмі ўдзячна ім усім за гэтыя 15 содняў. Веру, што ўсе яны будуць вольнымі і шчаслівымі і мы абавязкова пераможам!

### БЧБ сцяг. Вызваленне

«Шапуцька, з рэчамі на выхад», — абрадаваў мяне ахоўнік.

Развітваюся з дзяўчатамі, іду за наглядчыкам у кабінет і спыняюся: на падлозе паміж сталамі супрацоўнікаў турмы ляжыць БЧБ сцяг. Яны ўважліва глядзяць на мяне, кажуць: «Праходзьце, распішыцеся». Кажу, каб паднялі сцяг і не глуміліся над ім, бо ім самім, іх дзецям, унукам пасля будзе сорамна за падобныя ўчынкі. Але ж маўчанне ў адказ і вочы ў стол. Акуратна абышла сцяг, не наступіўшы на яго, распісалася ў паперах і выйшла з пакоя за суправаджаючым. Я ўжо чула расповеды дзяўчат аб падобных вычварэннях у турмах і РУУСах, у аўтазаках. Гэтая чорная зграя можа фізічна таптаць наш Сцяг, але ж знішчыць яго не ў іх сілах. У сэрцы гучалі словы верша Някляева:

«Лунае нескароны, на векавых вятрах, наш, ад крыві чырвоны, ад болю белы сцяг, наш бел-чырвона-белы, нябёсны, вольны, смелы, наш Сцяг!»

І вось я побач са сваімі роднымі, сябрамі. Усё будзе добра. Змаганне працягваецца.

Жыве вольная наша Беларусь! Жыве еднасць і салідарнасць!

**Мы не вытрымалі крыкаў ахоўнікаў і пачалі спяваць «Магутны Божа» — малітву, каб спыніць гэтую хвалю агрэсіі. Хутка пачуўся моцны грук дручком у нашы дзверы, маўляў, спыняйце свае спевы. «Мы молімся», — адказала я, і мы працягнулі спяваць. За дзвярыма супакоіліся, сцішыліся**



# Ці патрэбны мове статус дзяржаўнай?

Алег НОВІКАЎ

**Левы ўрад Іспаніі прапануе пазбавіць іспанскую мову статусу афіцыйнай і ўвогуле аддаць моўнае пытанне на разгляд рэгіёнаў. Апазіцыя лічыць, што такі сцэнар фатальны для іспанскай нацыі.**



Фота www.thegreatcoursesdaily.com

Год таму ўсе іспанскія нацыяналісты былі ў эйфарыі. У свежым штогодніку, выдадзеным Інстытутам Сервантэса, сцвярджалася, што колькасць чалавек, якія размаўляюць па-іспанску, у свеце вырасла да 577 мільёнаў. Такім чынам, іспанская мова стала чацвёртай па распаўсюджанасці мовай на планеце. А ў ракурсе дынамічнага росту іспанамоўнай дыяспары ў ЗША яна нават атрымала шанцы пацясніць на глабальным узроўні англійскую.

Прайшоў год, і настроі ў гэтым асяродку — зусім іншыя. Іспанафілы б'юць у званы, сцвярджаючы, што мове Лоркі і Сервантэса пагражае хуткае выміранне. Усё з-за прынятага 20 лістапада ў парламенце пакету паправак да закона пра адукацыю. Згодна з яго новай рэдакцыяй, з адукацыйнага заканадаўства будзе прыбрана фраза пра тое, што іспанская мова з'яўляецца афіцыйнай дзяржаўнай. Яна ж таксама пазбаўляецца статусу мовы міжнацыянальных зносін.

У перспектыве не цэнтральны ўрад, а адміністрацыі іспанскіх рэгіёнаў павінны забяспечыць права вучняў атрымліваць адукацыю на іспанскай мове і мовах аўтаноміі ў адпаведнасці з Канстытуцыяй, статутамі рэгіёнаў і дзейным заканадаўствам. Пры гэтым аўтаномныя рэгіёны абавязаныя забяспечыць адукацыю школьнікам таксама на іспанскай.

Папраўкі былі прынятыя пры 177 галасах «за», 148 «супраць», 17 устрымаліся. Галоўным чынам галасы за новыя правілы аддалі дэпутаты ад партый левай кааліцыі — Іспанскай сацыялістычнай рабочай партыі (PSOE) і левай кааліцыі Unidas Podemos. Паколькі гаворка ідзе пра канстытуцыйны закон, для зацвярджэння паправак неабходна было атрымаць абсалютную большасць (176 з 350) дэпутатаў. Сабраць патрэбны гербарый мандатаў атрымалася за кошт дэпутатаў ад рэгіянальных нацыяналістычных партый Галісіі, Краіны Баскаў і Каталоніі.

Як і варта было чакаць, правая апазіцыя адразу ўзняла неверагодны лямант. Правыя кажуць: запускаецца працэс выцяснення іспанскай мовы з усіх сектараў грамадскага жыцця. У перспектыве гэта прывядзе да таго, што жыхары Іспаніі будуць вывучаць па розных школьных праграмах. Гэта паглыбіць ізаляцыю рэгіёнаў і замарудзіць мабільнасць насельніцтва, прывядзе да стварэння передумоў фрагментацыі дзяржавы і нават да яе распаду. Дарэчы, пакуль такія прагнозы падаюцца перабольшанымі. На сёння 90% грамадзян Іспаніі ў побыце гавораць на іспанскай.

Крытыкі новага закона актыўна спасылаюцца на досвед Каталоніі, дзе каталонская мова паступова выцясняе іспанскую са школьнай аўдыторыі. У акругах, дзе пры ўладзе знаходзяцца нацыяналісты, на іспанскай выкладаюцца толькі 25% вучэбнага матэрыялу. Іх апаненты ў сваю чаргу сцвярджаюць, што статыстыка не адлюстроўвае сумнай рэальнасці. З-за засілля іспанамоўнай культурнай прадукцыі па-за школьнымі класамі моладзь усё роўна выкарыстоўвае іспанскую. Ускосна, як піша Financial Times, пра гэта сведчаць і вынікі нацыянальных школьных конкурсаў па веданні іспанскай мовы і літаратуры. Прызавыя месцы там традыцыйна атрымліваюць каталонскія школьнікі.

Так ці інакш, шмат хто сапраўды лічыць, што іспанскай мове нешта пагражае. Інакш на мінулым тыдні ў 12 гарадах краіны не прайшлі бы маніфестацыі за захаванне для іспанскай мовы статусу дзяржаўнай. Многія культурныя арганізацыі, уключаючы Каралеўскую іспанскую акадэмію, выказалі заклапочанасць рэформай, заклікаўшы прыняць закон, які не «ставіць пад сумнеў выкарыстанне іспанскай мовы на тэрыторыі любога рэгіёна і забараняе ствараць перашкоды для навучання на ёй».



Фота www.pngegg.com

Цяпер аматары іспанскай спадзяюцца, што законапраект удасца заблакаваць у нетрах Сената, які павінен накласці на яго сваю рэзалюцыю. Зрэшты, старшыня кансерватыўнай Народнай партыі Пабла Касада загадзя заявіў, што ў іншым выпадку падасць у Канстытуцыйны Суд, паколькі папраўкі супярэчаць Канстытуцыі.

Спрэчкі вакол мовы адсунулі на задні план іншыя, не менш цікавыя аспекты рэформы. Са старой версіі закона прыбраныя словы пра тое, што дзяржава «абавязана падтрымліваць прыватныя школы». Гэта сапраўдная міна пад недзяржаўныя школьныя ўстановы. Напрыклад, як піша выданне Voz de Almeria, новыя правілы прымусяць зачыніць 80 % каталіцкіх школ. Акрамя таго, усім школам, як прыватным, так і дзяржаўным, забаронена паасобнае навучанне хлопчыкаў і дзяўчынак. Адукацыя павінна быць сфакусаваная на праблемах дэмакратыі, экалогіі і фемінізму. Вучні павінны будуць глыбока вывучаць гісторыю дэмакратыі ў Іспаніі з улікам гендарнай праблематыкі.

Фактычна, левыя намагаюцца трансфармаваць навучальныя ўстановы ў інкубатары для гадавання сваіх выбаршчыкаў. Зрэшты, Іспаніі характэрная дастаткова частая ракіроўка правых і левых кабінетаў. Няма сумневу, што як толькі ўлада зменіцца, правыя паспрабуюць узяць рэванш.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«Маркуючы па тым, што папярэднія гучныя заявы Еўрапарламента па Беларусі разыходзяцца з рэальнымі дзеяннямі кіраўніцтва Еўрасаюза, мабыць, у яго кіраўнікоў трохі іншае ўяўленне пра тое, якімі спосабамі ўздзейнічаць на Лукашэнку ў гэтай гісторыі. Рашэнні па Беларусі не залежаць ад таго, які настрой у Еўрапарламента. Многае будзе залежаць ад зменаў, унесеных у беларускую Канстытуцыю. Самі па сабе рэзалюцыі Еўрапарламента не прывядуць да канкрэтных рашэнняў з боку еўрапейскіх уладаў».

**«Взгляд» (Расія)**

«Па-першае, Расія жадае дамагчыся правядзення канстытуцыйных рэформаў пад кантролем Масквы, аднак пуцінскае бачанне гэтых рэформаў не задаволіць Лукашэнку, які прывык кіраваць, нікому не даючы справаздачы. Па-другое, мэта Расіі заключаецца ў тым, каб разнастаіць пералік дзеячаў і арганізацый унутры Беларусі, з якімі яна зможа працаваць, маючы на ўвазе ў тым ліку палітычныя партыі і грамадскія аб'яднанні. Умацаванне такіх сувязяў пазбавіць Лукашэнку манапольнага становішча і права накладаць вета ў працэсе прыняцця рашэнняў. Па-трэцяе, Расія будзе спрабаваць пашырыць сваю эканамічную прысутнасць у Беларусі. Паколькі эканоміка Беларусі ідзе на спад, як і запасы крэдытных рэсурсаў, расійская алігархія застаецца адной з нешматлікіх крыніц валюты для беларускага ўрада».

**The Week (ЗША)**

«Пуцін, магчыма, разлічваў, што аслаблены Лукашэнка, які знаходзіцца ў хісткім становішчы, пойдзе на збліжэнне з Масквой. Тым не менш відавочна, што апазіцыя Беларусі, што набірае абароты і адмовілася паддавацца на жорсткія спробы дзяржавы запалохаць пратэсты, не супакоіцца, пакуль Лукашэнка не сыдзе».

**Foreign Policy (ЗША)**

«У Беларусі Крэмль спрабуе дачакацца патрэбнага моманту. Рускія не хочуць, каб іх звязвалі з жорсткім праўленнем Лукашэнкі, бо тады паўстане рызыка перарастання пратэстаў у геапалітычную праблему. Не патрэбна Крамлю і хаатычная ліквідацыя Лукашэнкі ад улады — гэта будзе служыць кепскім прыкладам. Аднак і вечнае яго знаходжанне пры ўладзе таксама Крамлю не трэба: рускія шукаюць альтэрнатывы. Захаду не хапае рычагоў уплыву. Апазіцыі не стае імпульсу. Яна не здолела заахвоціць рабочы клас на масавую забастоўку, якая, як спадзяваліся, прывядзе да звяржэння рэжыму».

**«Український тиждень» (Украіна)**

«Візіт кіраўніка МЗС Расіі ў Мінск на мінулым тыдні стаў сведчаннем глыбокага крызісу знешняй палітыкі Масквы. Зразумела, Крамлю зараз неабходна паказаць хаця б мінімальную перамогу. І гаворка нават не ў прасоўванні сваіх інтарэсаў у рэспубліцы, а ў іх падтрыманні. Зараз жа, адкінуўшы ўсе астатнія праблемы і пытанні на другі план, у Крамлі сканцэнтраваліся на вырашэнні пытання пра вызваленне Віктара Бабарыкі з беларускай турмы. Трэба прынамсі паказаць, што Расія сваіх не пакідае. Прычым Лукашэнку ў гэтым сэнсе прапануюць самыя розныя варыянты, ажно да абяцанняў забраць Бабарыку ў РФ і гарантаваць, што ён не будзе перашкаджаць».

**«Век» (Расія)**



Фота www.kabar.kg

# Уся ўлада Народнаму Курултаю!

Алег НОВІКАЎ

**Улада намагаецца стабілізаваць сітуацыю, абяцаючы народу пернік у выглядзе Канстытуцыйнай рэформы. Аднак свежыя навіны з Кыргызстана сведчаць пра тое, што вынікам такой рэформы можа быць не лібералізацыя, а, хутчэй, закручванне гаек.**

Дарэчы, магчыма, хутка ўвогуле ніякай Кыргызскай Рэспублікі на мапе свету не будзе. Справа ў тым, што на пасяджэнні Канстытуцыйнай нарады, якая працавала над тэкстам новага Асноўнага закона Кыргызстана, прагучала прапанова змяніць у новай Канстытуцыі афіцыйную назву краіны — замест Кыргызскай Рэспублікі — Кыргызская Народная Рэспубліка (КНР).

Падставай для такой арыгінальнай ініцыятывы стала з'яўленне ў тэксце праекта параграфа пра стварэнне ў краіне новага інстытута — Народнага Курултая. Народны Курултай, паводле Канстытуцыі, будзе вышэйшым дарадчым, кансультацыйным і каардынуючым органам народаўладдзя. Пакуль, праўда, незразумела — будзе той Курултай грамадскім органам, як жадаюць некаторыя палітыкі, або яго ўсё ж нейкім чынам увядуць у сістэму дзяржаўнай улады.

Зразумела толькі тое, што два разы на год кыргызы па месцы прапіскі будуць абіраць прыкладна 2500 прадстаўнікоў — удзельнікаў гэтага Курултая. Тыя заслухаюць справаздачу ўрада, каб вынесці (або не) вотум даверу яго міністрам. Таксама Курултаю нададуць права здымаць любога чыноўніка і зацвярджаць кандыдатаў на ўсе высокія дзяржаўныя пасады. Тады, калі верыць аматарам ідэі з Курултаем, чыноўнікі будуць больш адказнымі.

Трэба сказаць, што ідэя Курултая для кыргызаў не новая і мае гістарычную перадумову. У кыргызскай гісторыі шмат фактаў, калі вядомыя плямёны і знаныя роды збіраліся на Курултай. Курултай 1620 года лічыцца ледзь не днём нараджэння кыргызскай дэмакратыі.

Тым не менш вонкава гэтая тэма вельмі нагадвае нашыя Усебеларускія народныя сходы, якія людзі жартам таксама часта называюць «курултай». Гісторыя айчынных «курултаяў» дае падставы сумнявацца, што падобныя органы могуць быць крыніцамі дэмакратыі. Хутчэй, яны з'яўляюцца інструментамі піяру кіраўніцтва краіны.

На карысць версіі пра тое, што кыргызскі Курултай будзе аналагам нашых сходаў, гавораць і прапісанае ў праекце значнае пашырэнне паўнамоцтваў прэзідэнта. Прэзідэнт Кыргызстана павінен узяць пад поўны кантроль урад, Канстытуцыйны Суд і ўсю судовую сістэму. Ніякага балансу галінаў улады не прагледзіцца і праз запланаваную рэформу парламента. Прахадны бар'ер для партый паменшаць з сямі да трох працэнтаў, вынікам чаго, як мяркуецца, будзе драбненне дэпутацкага корпусу і, адпаведна, паралюш яго працы.

Усе каментатары згодныя, што новая Канстытуцыя пішацца пад Садыра Жапарава, які часова выконвае функцыі кіраўніка дзяржавы пасля рэвалюцыі 15 кастрычніка. Тады, нагадаем, па слядах пратэстаў супраць афіцыйных вынікаў парламенцкіх выбараў быў зрынуты прэзідэнт Сааранбай Жээнбекаў. Якраз Садыру Жапараву і належыць ідэя перакройкі Канстытуцыі.

З прыняццем новага Асноўнага закона ў будучага кіраўніка дзяржавы (мала хто сумняецца, што выбары выйграе менавіта Жапараў) адкрываюцца магчымасці кіраваць краінай у агульным аж 17 гадоў (сем год па цяперашняй Канстытуцыі плюс два тэрміны па пяць гадоў паводле новай).

Мяркуючы па прэсе, шмат з тых кыргызаў, хто стаміліся ад бясконцых пераваротаў, гатовыя надаць Жапараву картбланш. Ёсць надзея, што ён як мінімум зможа забяспечыць адносную стабілізацыю сітуацыі на этапе легалізацыі пострэвалюцыйнай улады. Таксама ў ім бачаць чалавека, які зможа скараціць апетыты мясцовых кланаў.

Аднак, як піша прэса, па-ранейшаму да канца незразумела, наколькі новая мадэль дзяржавы можа функцыянаваць ва ўмовах існавання моцнай нефармальнай грамадскай структуры (у выглядзе кланаў), якая часам бярэ на сябе функцыі паралельнай улады. Гэта яшчэ без уліку вялікай арміі беспрацоўнай моладзі, якая праз пандэмію не можа выехаць з краіны на заробкі. Менавіта яна, па сутнасці, была авангардам рэвалюцыі ў кастрычніку.

Лёс канстытуцыйнай рэформы таксама цяжка прадказаць з-за таго, што праца па яе падрыхтоўцы часам нагадвала шоу. Яе ўдзельнікі агітавалі за вельмі смелыя папраўкі. Прапанавалі Канстытуцыяй абавязаць школьнікаў вучыцца да 11 класа. Гучала думка адмовіцца ад свецкага прынцыпу дзяржавы. Нехта заклікаў замацаваць за англійскай мовай статус афіцыйнай — разам з рускай. І, нарэшце, вішанька на торце — варыянт Канстытуцыі, які быў размешчаны для грамадскага абмеркавання на сайце парламента, адрозніваецца ад таго, што разглядалі на Канстытуцыйнай нарадзе. Адсюль іранічнае стаўленне да рэформы.

Так ці інакш, выбары прэзідэнта і рэферэндум па новай Канстытуцыі, праект якой цяпер выстаўлены на абмеркаванне, запланаваныя на студзень. І ведаючы кыргызаў, наўрад ці ўсё абыдзецца без новых эксцэсаў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Мая Санду



Нядаўна абраная прэзідэнтка Малдовы зрабіла шэраг рэзанансных крокаў у галіне знешняй палітыкі. Напрыклад, яна заклікала прыбраць расійскія войскі з Прыднястроўя, замяніўшы іх на міратворцаў АБСЕ. А свой першы візіт паабяцала нанесці ў Кіеў да Уладзіміра Зяленскага. Ходзяць чуткі, што малдоўскі гарант будзе прасіць Зяленскага пачаць эканамічную і палітычную блакаду Прыднястроўя, каб прымусіць афіцыйны Цірасполь быць больш згаворлівым па тэме міратворцаў і збліжэння з афіцыйным Кішынёвам.

У самім Прыднястроўі не выключаюць, што Санду паспрабуе пераканаць Зяленскага ў тэрытарыяльнай ракіроўцы. Прыднястроўе, дзе Кіеў раздаў больш за сто тысяч украінскіх пашпартоў, будзе часткай Украіны. У сваю чаргу паўднёвая частка Адэскай вобласці стане малдоўскай. Такая камбінацыя, маўляў, дазволіць інтэграцыю Малдовы з Румыніяй.

Адначасова на заявы Санду даволі рэзка адгукнуліся ў Расіі. Прэс-сакратар Пуціна Дзмітрый Пяскоў заявіў, што змяненне статус-кво ў Прыднястроўі можа прывесці «да сур'ёзнай дэстабілізацыі».

Зрэшты, ёсць меркаванне, што далей слоў Санду не пойдзе па той прычыне, што ўлада прэзідэнта ў Малдове моцна абмежаваная парламентам, паўнамоцтвы цяперашняга складу якога мінаюць толькі ў 2023 годзе. Дарэчы, Санду ўжо запатрабавала пазачарговых выбараў.

### Мун Джэін



Прэзідэнт Паўднёвай Карэі, які па Канстытуцыі таксама кіруе ўрадам, уключыўся ў незвычайную спрэчку, якую вядуць у сетках паўднёвакарэйскія і кітайскія гурманы. Яблык разладу — нацыянальная прыналежнасць кімчхі — стравы, якая прадстаўляе сабой квашаную (ферментаваную) гародніну, у першую чаргу, пекінскую капусту.

Не так даўно адзін з кітайскіх варыянтаў кімчхі атрымаў сертыфікат Міжнароднай арганізацыі па стандартызацыі (ISO). Гэты факт дазволіў кітайскай прэсе гучна заявіць, што стандарт кімчхі робяць толькі ў Кітаі. Падзея абурыла паўднёвакарэйцаў да такой ступені, што некаторыя мясцовыя СМІ ўбачылі ў гэтым «нахабнае імкненне Кітая да сусветнага панавання».

Урэшце, сітуацыю пракаментаваў і ўрад Мун Джэіна. Згодна з яго заявай, «зацверджаны ISO стандарт не мае нічога агульнага з кімчхі». Калі верыць чыноўнікам, кітайцы падсунулі ISO не кімчхі, а кітайскую страву пао цай. Акрамя таго, у 2013 годзе ЮНЕСКА афіцыйна прызнала кімчхі неад'емнай часткай карэйскай ежы, часткай карэйскай ідэнтычнасці.

Зрэшты, у кітайцаў ёсць на гэта свой забойчы аргумент: уся капуста, з якой робяць кімчхі ў Паўднёвай Карэі, імпартуецца з Кітая.

Хутчэй за ўсё, у гэтай спрэчцы не будзе пераможцы, а сама яна з'яўляецца ілюстрацыяй нарастання супярэчнасцей паміж Кітаем і ЗША, якія ў дадзеным рэгіёне абапіраюцца ў тым ліку на Паўднёвую Карэю.

### Алена Ямпольская



Старшыня камітэта па культуры Дзярждумы РФ, сябра партыі «Адзіная Расія» ўнесла на разгляд законапраект аб забароне «публічнага дэманстравання» выяў нацысцкіх злачынцаў часоў Другой сусветнай вайны. У выпадку прыняцця закона публікацыя фатаграфіі або малюнка таго ж Гітлера будзе разглядацца як прапаганда нацысцкай сімволікі. За гэта простыя расіец можна атрымаць штраф на суму да 2500 долараў.

Увядзенне новай нормы, на думку аўтараў, будзе перашкаджаць «гераізацыі ваенных злачынцаў» на тэрыторыі Расіі. Па словах заканадаўцы, такія інцыдэнты адбываюцца рэгулярна. Літаральна на днях пракуратуры Арлоўскай вобласці ўдалося спыніць продаж марак з выявай усё таго ж Адольфа Гітлера. Эксперты-юрысты, у сваю чаргу, лічаць, што папраўкі толькі дададуць хаосу ў правапримяненні, спасылаючыся на вопыт іншага закона супраць прапаганды нацызму. У 1995 годзе ў Расіі была ўведзеная забарона на выкарыстанне і дэманстрацыю нацысцкай сімволікі ў любой форме. У выніку пад патэнцыйнай забаронай апынуліся шматлікія фільмы пра вайну, дзе прысутнічаюць персанажы-гітлераўцы. Год таму Дума прыняла папраўку, паводле якой атрыбутыка нацыстаў можа прысутнічаць у творах мастацтва, у паведамленнях СМІ і падобнае.

# Бела-чырвона-белы сцяг: абярэг

Леанід ЛЫЧ,
доктар гістарычных навук,
прафесар



**Афіцыйнаму выкарыстанню бела-чырвона-белага сцяга (БЧБС) паклаў пачатак Першы Усебеларускі кангрэс, які праходзіў у Мінску ў снежні 1917 года.**

Гэтую практыку працягнула Беларуская Народная Рэспубліка, абвясціўшы сябе 25 сакавіка 1918 года незалежнай дзяржавай. Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка катэгарычна не прызнала такі сцяг, палічыўшы яго варожым. А вось удзельнікі нацыянальна-вызвольнага руху на той тэрыторыі Беларусі, што паводле Рыжскай мірнай дамовы 1921 года адышла да Польшчы, з вялікім гонарам неслі БЧБС у сваіх руках, за што мы павінны быць бясконца ўдзячнымі ім, казаць толькі «Дзякуй!».

## Пад савецкай забаронай

Выкарыстанню беларускага нацыянальнага сцяга прыйшоў канец у верасні 1939 года, калі Чырвоная Армія вызваліла Заходнюю Беларусь з-пад улады Польшчы. Прычына непрызнання БЧБС: пэўны час пад ім беларускія нацыянальна-патрыятычныя сілы змагаліся за рэальную дзяржаўную незалежнасць роднага краю, а бальшавікі, прыйшоўшы да ўлады ў выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года, усяляк перашкаджалі яму стаць на шлях незалежнага дзяржаўнага развіцця. Пра гэта не маглі не ведаць тыя, хто з верасня 1939 года ўсталёўвалі савецкую ўладу на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Таму тут адразу ж, як і ў БССР, залунаў дзяржаўны сцяг чырвонага колеру.

Калі ў Савецкай Беларусі на сыходзе 1930-х гадоў многія ўжо не мелі праўдзівага, аб'ектыўнага ўяўлення пра бела-чырвона-белы сцяг, для іх суродзічаў з «усходніх крэсаў» Польшчы ён заставаўся самым дарагім нацыянальным сімвалам, пад якім яны амаль два дзесяцігоддзі самаахвярна змагаліся за законныя правы быць гаспадаром на роднай зямлі, абаранялі яе народ ад дзяржаўнай палітыкі паланізацыі. Варта адзначыць, што нягледзячы на ўсе яе негатыўныя наступствы, па стане на верасень 1939 года жыхары «ўсходніх крэсаў» Польшчы вызначаліся куды больш выразнай беларускасцю, чым гэта было характэрна народу БССР. Масавыя фізічныя рэпрэсіі 1930-х гадоў моцна падарвалі яго нацыянальныя ўстоі.

Толькі крыху больш за паўтара года давялося ўз'яднанай Беларусі пажыць без вайны, развязанай фашысцкай Германіяй. За гэты кароткі прамежак часу «заходнікі» не забыліся на БЧБС, і па іх ініцыятыве (а не мінчан ці магілёўчан) ён стаў у гады фашысцкай акупацыі афіцыйным сцягам цывільнай мясцовай адміністрацыі. Карысталіся ім і нацыянальныя грамадскія арганізацыі. Вядома, не без настойлівага хадайніцтва і першых, і другіх перад акупацыйнымі ўладамі. І тое, што апошнія пагадзіліся на выкарыстанне бела-чырвона-белага сцяга, можна з поўнай падставай лічыць за перамогу мясцовай цывільнай адміністрацыі, нацыянальна свядомых колаў беларускага грамадства. Акупанты ж свабодна маглі навязаць Беларусі толькі нямецкую сімволіку, і ніхто ціўкнуць не асмеліўся б. Тут нам дужа пашанцавала: вярнулі да жыцця тое, што прагрэсіўныя беларускія нацыянальныя сілы здабылі ў ходзе барацьбы за права мець уласную дзяржаўнасць і не выпускалі з сваіх рук у нялёгкім



**Леанід Лыч: «Пралітая са жніўня 2020 года кроў пад Бела-Чырвона-Белым Сцягам зрабіла яго светлым для беларусаў»**

змаганні з польскім прыгнётам.

У 13-гадовым узросце аўтар гэтых радкоў бачыў бела-чырвона-белы сцяжок у памяшканні Магільнянскай валаснай управы Вуздзенскага (у тагачасным напісанні і вымаўленні. – Л. Л.) павета. На пытанне: «Чаму ён такі?», — не атрымаў адказу ні ад бацькі, ні ад настаўнікаў (усе яны былі ў маладым узросце). З восені 1942 года маё роднае мястэчка Магільнае апынулася ў паласе партызанскага руху, чаму я быў вельмі рады, і БЧБС канчаткова выпаў з маёй галавы.

## Вяртанне да жыцця

Зусім непадобнае становішча склалася на падуладнай акупацыйнаму рэжыму беларускай тэрыторыі, дзе было дазволена функцыянаванне цывільных мясцовых уладаў. У іх хапала асобаў (сёння іх называюць калабарантамі, атаясамліваючы са здраднікамі) трывалай прабеларускай пазіцыі, не абыякавых да лёсу Бацькаўшчыны. Яны, вядома, не маглі не паклапаціцца і пра наяўнасць у яе адпаведнай з умовамі таго часу нацыянальнай сімволікі. Усе суседнія беларусам народы ўжо мелі яе, аддаючы перавагу той, што існавала ў часы іх нацыянальнага ўздыму. Такім падыходам кіраваліся і беларускія нацыянальна-патрыятычныя колы, лічачы цалкам правамерным вярнуць да жыцця бела-чырвона-белы сцяг — гонар Першага Усебеларускага кангрэса, абвешчанай 25 сакавіка 1918 года незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, амаль дваццацігадовага гераічнага змагання заходніх беларусаў супраць польскага прыгнёту.

У вернутым да жыцця БЧБС не знайсці было нават рысачкі з чаго-небудзь нацысцкага. Гэта была выключна беларуская нацыянальная сімволіка, што толькі дапамагала ёй пасяляць у душах нашых людзей пэўную надзею на выжыванне, захаванне сваёй этнічнай тоеснасці. На дзяржаўным жа грунце палітыка анямечвання не праводзілася. Для яе вызначаўся больш позні час. І, што вельмі важна, — беларуская мова абслугоўвала ўсе сферы грамадскай дзейнасці.

Варта адзначыць, што выкарыстанне ў часы фашысцкай акупацыі БЧБС ніколькі не пасягала на нацыянальныя інтарэсы ніводнай з этнічных супольнасцяў Беларусі, нічым не шкодзіла захаванню паміж імі міру і згоды, што так жыццёва неабходна было ў той экстрэмальнай сітуацыі.

Вяртанне да афіцыйнага ўжытку БЧБС радавала не толькі моцна заклапочаных лёсам Бацькаўшчыны нацыянальных актывістаў, але і ў не меншай ступені занятых у мясцовых цывільных органах улады службоўцаў. Апошніх проста зразумець: у гэтым сцягу яны знаходзілі тое, што дазваляла ім глядзець на сваю дзейнасць як на праяву калі не пэўнай дзяржаўнай, дык хаця б адміністрацыйнай самастойнасці ва ўмовах функцыянавання акупацыйнага рэжыму. Дарэчы, нямецкая свастыка парадкам саступала яму па маштабах распаўсюджання на падуладнай захопнікам тэрыторыі Беларусі, што ішло толькі на карысць нацыянальнаму інтарэсу.

З цягам часу бачыць бела-чырвона-белы сцяг у грамадскіх месцах стала зусім звычайнай з'явай. Яго маглі зусім не заўважаць заклапочаныя цяжкім станам жыцця людзі, большыня беларускага народа. А вось у маладых пакаленняў, асабліва ў асяроддзі навучэнцаў, БЧБС добра прыжыўся, пра што добра паклапаціліся педагагічныя калектывы, кіраўніцтва створанага ў чэрвені 1943 года Саюза беларускай моладзі (СБМ).

Моладзевае пытанне дужа цікавіла нямецкіх акупантаў і тыя колы беларускага грамадства, што супрацоўнічалі з імі. Падыходы да яго былі дыяметральна процілеглымі: першыя імкнуліся падпарадкаваць моладзь інтарэсам Трэцяга рэйха, другія – зрабіць яе актыўным носьбітам беларускай нацыянальнай ідэі. Другія дамагаліся непараўнальна больш за першых. Бясспрэчна, значную частку сяброў СБМ удалося вывезці на працу ў Германію, накіраваць у войска. Але такога зладзейства яшчэ ў большых памерах удалося б зрабіць ворагу пры адсутнасці СБМ, кіраўніцтву якога ўдавалася ўлагоджваць з акупантамі многія прынцыповыя для нацыянальнага інтарэсу Беларусі пытанні. І самым важным было тое, што сябры СБМ шмат чаго карыснага рабілі для сваёй Бацькаўшчыны, а самі ўзгадоўваліся ў адпаведнасці з яе спрадвечнымі нацыянальна-культурнымі традыцыямі, ніколькі не анямечваючыся.

## Нацыянальная трагедыя

Інакш, як страшэннай беларускай нацыянальнай трагедыяй, нельга назваць тое, што вялікая колькасць такой моладзі да прыходу ўлетку 1944 года Чырвонай Арміі пакінула Беларусь і падалася на Захад, а тая, што засталася дома, стала аб'ектам жорсткіх савецкіх рэпрэсій. Калі б выхаваная за гады акупацыі ў беларускім нацыянальным духу моладзь не скранулася з месца, мела пасля вызвалення Бацькаўшчыны магчымасць працаваць у розных сферах грамадскай дзейнасці, нашае пасляваеннае жыццё не было б такім знявечаным ненаеднай русіфікацыяй нават пры ўсёй дапамозе ёй з боку Крамля, мясцовых ардаў нацыянальных нігілістаў. Бела-чырвона-белы сцяг, магутны кліч «Жыве Беларусь!» вялі ў гады акупацыі за сабою моладзь не да здрады, а да абароны святога беларускага нацыянальнага ідэалу. Таму яшчэ раз паўтаруся: інакш, як страшэннай нацыянальнай трагедыяй, нельга назваць масавыя ўцёкі той моладзі ў краіны Заходняй Еўропы.

Ніколькі не выключаю, што атрыманы моладдзю за час знаходжання ў СБМ нацыянальны зарад пазней спрычыніўся б да яе актыўнага супрацьву савецкай палітыцы русіфікацыі сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў. Моладзь цэнтральных і ўсходніх раёнаў БССР, дзе ў гады акупацыі дзейнасць СБМ не мела такога размаху, вяла сябе пасіўна ў дачыненні да русіфікацыі сістэмы народнай адукацыі — асноўнай нацыястваральнай сферы любога народа. Савецкая Феміда была не ў меру жорсткай у дачыненні да колішніх сяброў СБМ за іх нават сімвалічны супраціў самай, як было прынята лічыць, прагрэсіўнай у свеце сталінскай нацыянальнай палітыцы. Праўда, у адрозненне ад практыкі 1930-х гадоў, нікога не расстралялі, а па 25 гадоў няволі ўлупілі нямала каму.

Сказанага больш чым дастаткова, каб у дзейнасці СБМ бачыць не толькі адну крамолу, а яшчэ і пазітыўнае, натхняльнай крыніцай якой з'яўляўся і бела-чырвона-белы сцяг. Таму вялікая несправядлівасць, сапраўдны здзек вырываць сёння БЧБС з рук моладзі за яе шчырае жаданне нарэшце дамагчыся сапраўднай суверэннай дзяржавы, бачыць у сваім народзе паўнавартасную самабытную нацыю, а не спаласаваны бяздумнай русіфікацыяй натоўп. А сёння з абрыдлай русіфікацыяй у поўнай згодзе жывуць сябры Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі. Яго праруская дзейнасць проста б'е праз край.

Улетку 1944 года нарэшце прыйшло доўгачаканае для Беларусі вызваленне ад нацысцкага рабства. Для мяне гэта самыя дарагія радасныя дні, таму 3 ліпеня разглядаю выключна толькі як Дзень вызвалення, а не свята незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

Напярэдадні вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў яе пакінулі сотні тысяч людзей, якія ў той ці іншай форме супрацоўнічалі з нямец-

# незалежнасці і ідэнтычнасці беларусаў

кімі акупантамі, што не заўсёды з'яўлялася здрадай. У канцэнтраваным выглядзе няшчадна праклінаныя і пасёння калабаранты свой погляд на мінулае і будучае роднай Бацькаўшчыны пастараліся грунтоўна выказаць перад тым, як пакінуць яе, 27 чэрвеня 1944 года на Другім Усебеларускім кангрэсе, які праводзілі ў Мінску.

Вось некалькі не састарэлых, актуальных і пасёння вытрымак з прачытаных на тым Кангрэсе дакладаў: «Больш ганебнага і брутальнага акту, як рыскі трактат (1921 г. – Л. Л.), у адносінах да беларускага народа не ведае культурны свьет» (Прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады прафесар Радаслаў Астроўскі); «Падзеі 1939 года ў Заходняй Беларусі ёсць яшчэ адным... доказам таго, што і пралетарская Масква з'яўляецца заклятым ворагам свабоды беларускага народа...» (першы Віцэ-прэзідэнт БЦР Мікалай Шкелёнак); «Мы настолькі ўзраслі, што можам сказаць: далоў з усімі дагаворамі (з Польшчай і Масквой. – Л. Л.). Мы будзем жыць як вольны непадзельны народ» (генерал Канстанцін Езавітаў). Адзін з галоўных дакладаў на Кангрэсе, з якім выступіў кіраўнік Беларускага культурнага згуртавання (існавала і такое ў гады акупацыі!) Аўген Калубовіч, меў назву «Аб канчальным разрыве Беларусі з Масквою і аб уневажненні Маскоўскага голасу ў беларускіх справах».

З прыведзеных цытат, назваў дакладаў нішто не сведчыць пра тое, што ліхой памяці беларускія калабаранты, трымаючы ў руках бела-чырвона-белы сцяг, мелі на мэце пазбавіць свой народ права на суверэннае жыццё, зрабіць рабамі нямецкай нацыі. Беларуская калабарацыя ёсць перш за ўсё вынік няздольнасці Чырвонай Арміі абараніць Беларусь ад ворага. Няма такой захопленай Вермахтам краіны, дзе б у гады акупацыі адсутнічала калабарацыя — і пра яе там даўно ніхто нічога не згадвае. У нас жа яна — нібыта ўчарашні дзень.

### За незалежнасць і адзінства

Тут бы нашым палітыкам, афіцыйным ідэолагам, блізкім ім па духу інтэлектуалам не шкодзіла б узяць прыклад з Іспаніі, дзе неўзабаве пасля перамогі генерала Франка ў 1939 годзе над рэспубліканцамі не чынілася фізічнай расправы — з тым, каб не дапусціць сацыяльнага расколу грамадства, паспрыяць яго хутчэйшай этнічнай кансалідацыі.

У памяці народа трэба ўваскрашаць не калабарацыянізм у гады фашысцкай акупацыі, а тое, што спрыяла нацыянальнаму адзінству беларускага народа, што засцерагала яго ад анямечвання. І калі нацыянальнаму выжыванню беларусаў у чымсьці спрыялі занятыя ў акупацыйных уладных структурах людзі, іх не варта так няшчадна паліваць брудам. Іх супрацоўніцтва з немцамі — з'ява вымушаная, а не добраахвотная. Нават удзельнікі Другога Усебеларускага кангрэса не заяўлялі пра пакорлівасць, адданасць гітлераўскай Германіі. Не адлюстравана гэта і ў прынятай на Кангрэсе Рэзалюцыі. Затое ў ёй прысутнічаюць пункты пра неабходнасць забеспячэння беларусам поўнай дзяржаўнай незалежнасці. У адпаведнасці з рашэннямі Першага Усебеларускага кангрэса, стратэгічнай лініяй Беларускай Народнай Рэспублікі заяўлялася, што ў барацьбе беларускага народа за нацыянальную незалежнасць і надалей трэба ісці пад бела-чырвона-белым сцягам.

Насуперак устаноўкам партыйна-савецкіх органаў БССР практыку выкарыстання нацыянальнай гістарычнай сімволікі аднавіў створаны ў чэрвені 1989 года Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне». Афіцыйнае прызнанне БЧБС атрымаў у верасні 1991 года неўзабаве пасля абвяшчэння Рэспублікі Беларусь суверэннай дзяржавай. Шмат і заслужана прыбавілася аўтарытэту бела-чырвона-беламу сцягу, што ён вісеў на будынку ў Вашынгтоне, у якім у верасні 1993 года была адкрыта амбасада Рэспублікі Беларусь у ЗША. Якіх-небудзь пратэстных акцый з боку народа не назіралася. Болей за тое, пад гэтым сцягам, нікольі не пярэчачы, у поўнай згодзе з патрабаваннямі часу Лукашэнка кляўся аддана служыць нацыянальным інтарэсам беларускага народа. Аднак неўзабаве гэтую, відаць няшчырую, клятву груба парушыў сваімі рэферэндумамі 1995—1996 гадоў, увёўшы ў практыку афіцыйнае беларуска-рускае двухмоўе, добра разумеючы, што ў той сітуацыі перамога абавязкова дастанецца навязанай Беларусі царызмам і сталінскімі сатрапамі чужой ёй рускай мове.

Пад нож разам з беларускай мовай трапіў і бела-чырвона-белы сцяг. Ад гэтых нацыянальных святынь уладам не ўдалося адарваць толькі сапраўдных беларускіх патрыётаў. У іх нікольі не змянілася паважлівае стаўленне да БЧБС з-за таго, што ад яго адцураўся той, хто пад ім прысягаў народу. І яны мелі рацыю: бо ў чыіх бы руках ні знаходзіўся наш сапраўдны беларускі нацыянальны сцяг, у тым ліку і ў калабарантаў часоў фашысцкай акупацыі, хто б пад ім ні агалошваў хлуслівую, фіктыўную клятву, каштоўнасць яго паранейшаму застаецца на не дасягальнай для іншай атрыбутыкі вышыні. Бела-Чырвона-Белы Сцяг разам з поклічам «Жыве Беларусь!» служылі, служаць і будуць служыць нацыянальным інтарэсам Бацькаўшчыны, не маючы сабе альтэрнатывы!

**Афіцыйнае прызнанне БЧБС атрымаў у верасні 1991 года неўзабаве пасля абвяшчэння Рэспублікі Беларусь суверэннай дзяржавай. Ён вісеў на будынку ў Вашынгтоне, у якім у верасні 1993 года была адкрыта амбасада Беларусі ў ЗША**




Самім лёсам наканавана беларусам ісці да сапраўднай волі, рэальнай дзяржаўнай незалежнасці, нязбэшчанага русіфікацыяй нацыянальна-культурнага жыцця толькі ў руках з Бела-Чырвона-Белым Сцягам так, як гэта было ва ўсёй краіне падчас жнівеньска-лістападаўскіх 2020 года мітынгаў, дэманстрацый, якія, упэўнены, будуць працягвацца да пераможнага канца. Наспеў час вызначыць дзень Свята Бела-Чырвона-Белага Сцяга. Ім, лічу, можа быць адзін з дзён правядзення паседжанняў Першага Беларускага кангрэса альбо 19 верасня, калі ў 1991 годзе Вярхоўны Савет БССР прыняў закон «Аб дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь», які м стаў бела-чырвона-белы сцяг.

### Дзень нацыянальнай трагедыі

У наш трывожны час варта было б вызначыць і Дзень нацыянальнай трагедыі. Ім магло б быць 14 траўня, бо ў 1995 годзе ў гэты злой памяці дзень у адпаведнасці з ініцыяваным Лукашэнкам рэферэндумам быў убіты асінавы кол у самае сэрца беларускай нацыі — яе родную мову, а ва ўсім бездакорную беларускую нацыянальную сімволіку замянілі чырвона-зялёным сцягам. Гэты дзень як Дзень нацыянальнай трагедыі мог бы быць добрай нагодай не толькі для сур'ёзнай гаворкі аб злачынных разбурэннях прэзідэнцкай вертыкаллю этнакультурнай самабытнасці краіны, але і для грунтоўнага вызначэння шляхоў выхаду беларускага народа з нацыянальнага заняпаду, пабудовы сапраўднай суверэннай дзяржавы.

Выключна высокі на сёння аўтарытэт бела-чырвона-белага сцяга ў вачах сучасных беларусаў не дае ніякіх падстаў для супакаення, бо і ворагаў у яго хапае. Гэта найперш тыя, што знаходзяцца ля стырна ўлады. Самы важкі ў іх руках козыр супраць БЧБС — гэта выкарыстанне яго калабарантамі ў часы фашысцкай акупацыі. Хтосьці з нацыянальна свядомых беларусаў можа ўсумніцца ў гістарычнай каштоўнасці сцяга з прычыны таго, што пад ім Лукашэнка даваў клятву аддана служыць інтарэсам народа, сцерагчы яго этнакультурную самабытнасць ад шкодных чужацкіх уплываў. Калі ж тая клятва была парушана і сёння ігнаруецца гэтай дзяржаўнай асобай, БЧБС ад гэтага нікольі не губляе сваёй неацэннай нацыянальнай, гістарычнай вартасці. Інакш з ім так жорстка не распраўляліся б сілавыя структуры, так люта не нападалі б дзяржаўныя ідэолагі, афіцыйная эліта, спасылаючыся найчасцей на выкарыстанне яго калабарантамі. Ва ўмовах узрастання ролі рэлігійнага фактару ў жыцці сучаснага беларускага грамадства бачыцца мэтазгодным царкоўнае асвячэнне Бела-Чырвона-Белага Сцяга. І зрабіць такое павінна Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква. А яшчэ лепей было б, каб тое здзейсніла ўсе існыя ў Беларусі царкоўна-рэлігійныя канфесіі.

***

Пралітая са жніўня 2020 года і пасёння кроў пад Бела-Чырвона-Белым Сцягам зрабіла яго навекі светлым для беларусаў. Ён адзіны надзейны абярэг і нацыянальнай незалежнасці, і этнічнай ідэнтычнасці.



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Сяргей КАЙКО

# Футбол, як і Беларусь, больш не будзе ранейшым

**У нядзелю сапраўдныя беларусы ганялі ва ўсю моц па зацярушаных снегам вуліцах, мабільна пазбягалі непажаданых спатканняў з сілавікамі — і гульцы клубаў вышэйшай лігі тэарэтычна маглі б узяць у пратэстах удзел, бо ў іх ужо зімовыя вакацыі.**

Фактычна ж чакаць ад большасці з іх грамадзянскай актыўнасці даўно не прыходзіцца. Ускормленыя на бюджэтных харчах, яны нібыта жывуць у сваім плюшавым свеце. Ну, дый ладна.

Нацыянальнае першынства фінішавала ў суботу. Чэмпіёнам нечакана стаў «Шахцёр» — упершыню за апошнія 15 гадоў. Фаварыт БАТЭ другі сезон запар застаўся без залатых медалёў, і што асабліва прыкра — з вельмі цьмянымі перспектывамі наконт далейшага існавання.

Як казалі ў старажытнасці, sic transit gloria mundi. Што ў перакладзе азначае — самі вінаватыя.

Усё было ў руках барысаўчан. Перамагай у Мінску мясцовае «Дынама» — і замаўляй чэмпіёнскі кардэбалет на цэнтральнай плошчы свайго павятовага горада. Пад гэтую справу нават у Доме футбола вырашылі пабаяцца бога і скасавалі частку дыскваліфікацыі Ігара Стасевіча — капітана і лідара БАТЭ. «Жоўта-сінія» ў выніку змаглі разлічваць амаль што на наймацнейшы склад, але рады мінчанам так і не далі.

Матч завяршыўся бляклай нулявой нічыёй, а барысаўчане на полі выглядалі так, нібыта напярэдадні ўручную, корпаючыся на каленях, выбралі сорак сотак бульбы. Вочы не гараць, ногі набрынялі стомай, сэрца б'ецца толькі думкай адной — хутчэй бы ўсё гэта скончылася. Яно і скончылася, і яшчэ добра, што «па нулях». Бо «Дынама» мела шанцы перамагчы — каб у сярэдзіне першага тайма рэалізавала пенальці. Аднак варатар Антон Чычкан выратаваў — зрэшты, плёну з таго каманда так і не здабыла.

Ледзьве рухаючыся ў Мінску, БАТЭ цешыўся надзеяй на паралельную рэчаіснасць. Тая клакатала ў Салігорску, дзе годна і адважна «Мінск» даваў адпор «Шахцёру». Двойчы вёў у ліку, потым доўга трымаў нічыйныя лічбы на табло — і ўсё гэта было на карысць барысаўчан. І ўсё-ткі пад самы фініш гарнякі даціснулі няўрымслівых сталічнікаў. Перамогу яны вырвалі на 92-й хвіліне, пасля чаго стала зразумела, што свайго каманда ўжо не аддасць.

Такая была галівудская закрутка ў барацьбе за золата — і такая развязка на карысць Салігорска, дзе пра чэмпіёнства марылі ажно паўтара дзясяткі гадоў. З тых самых часоў, калі ў 2005 г. «Шахцёр» стаў найлепшым у краіне нават з адрывам, датэрмінова.

Заліхвацкі трылер выдалі і барацьбіты за бронзу. Брэсцкае «Дынама» чаплялася за апошні невялікі шанц і сваю справу зрабіла — натаўкла ў карак «Нёману», што завітаў у госці. Дзякаваць за тое цяпер ужо экс-чэмпіёнам доўга-доўга будуць у Жодзіне. Менавіта такі вынік у Брэсце склаўся на карысць «Тарпеда», праліўся бальзамам на душу іх трэнера Юрыя Пунтуса і яго хлопцаў. Яны ў Віцебску здабылі цяжкую вікторыю, забіўшы рашаючы гол напрыканцы гульні. Што ж, тым радасней было пасля фінальнага свістка адхлёбваць «бронзавае» шампанскае, балазе яно яшчэ не скончылася ў Беларусі.

Але завяршыўся сезон. Напрадзе хіба што пераходныя матчы — у іх месца ў вышэйшай лізе будуць дзяліць «Слуцк» і «Крумкачы». Першы — як трэцяя з канца каманда мацнейшага дывізіёну, другія — як трэцяя каманда дывізіёну 2. Тое яшчэ наперадзе, а пакуль — кароткія высновы з таго, што было, і лаканічны экскурс у будучыню, якая, мякка кажучы, не абяцае беларускаму футболу занадта хлебнага дабрабыту.

Тыдзень таму мы паведамлялі, што няўдача БАТЭ ў барацьбе за золата з вялікай верагоднасцю стане «чорнай меткай» для клуба. Не стане крыніцы заробку праз Лігу чэмпіёнаў — узнікне рызыкааднойчы пакласці зубы на паліцу. Гэтай трывогай цяпер і жывуць барысаўскія заўзятары, і ў ёй няма перабольшання.

Тое ж самае, здаецца, чакае і брэсцкае «Дынама» — і такі паварот мы таксама акрэслілі ў мінулым нумары. І вось ужо развіталіся з камандай лідары Арцём Мілеўскі і Павел Савіцкі — і гэта толькі першыя ластаўкі, якія пакідаюць берагі Буга. Берагі тыя больш не будуць кісельнымі, гэта значыць, што за сціплыя грошы ў Брэсце застануцца толькі сціплыя гульцы. З адпаведнымі мэтамі-задачамі — зусім не напалеонаўскімі.

Ну, і ўвогуле фінансавыя пытанні множацца так імкліва — хоць зараз замаўляй пахавальныя вянкі. Невядома што будзе з «Іслаччу», усе гульцы якой (за выключэннем маладых) напісалі заявы аб сыходзе. Хмары на гарызонце «Гарадзеі» і «Слуцка» — сумныя наступствы гучнай і крымінальнай «цукровай справы». Плюс навічок лігі — рэчыцкі «Спадарожнік» — мяркуючы па ўсім, на вышэйшым узроўні так і не згуляе. Проза жыцця: раптам выявілася, што лішніх грошай на футбол у спонсара няма.

«Што будзе заўтра?» — пытанне, якое хвалюе футбол ужо сёння. Зрэшты, не толькі футбол. Уся Беларусь, цяжарная пераменамі, здранцвела ў чаканні. Ці загляне сонца ў наша ваконца?

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА**

| | | Г | П | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Шахцёр | 30 | 17 | 8 | 5 | 57-21 | 59 |
| 2. | БАТЭ | 30 | 17 | 7 | 6 | 65-32 | 58 |
| 3. | Тарпеда-БелАЗ | 30 | 16 | 8 | 6 | 55-37 | 56 |
| 4. | Дынама Бр | 30 | 17 | 3 | 10 | 63-40 | 54 |
| 5. | Нёман | 30 | 16 | 5 | 9 | 41-29 | 53 |
| 6. | Дынама Мн | 30 | 16 | 4 | 10 | 38-25 | 52 |
| 7. | Іслач | 30 | 13 | 6 | 11 | 47-46 | 45 |
| 8. | Рух | 30 | 11 | 11 | 8 | 57-38 | 44 |
| 9. | Славія | 30 | 10 | 9 | 11 | 41-49 | 39 |
| 10. | Энергетык-БДУ | 30 | 11 | 5 | 14 | 43-46 | 38 |
| 11. | Мінск | 30 | 11 | 5 | 14 | 45-57 | 38 |
| 12. | Віцебск | 30 | 8 | 12 | 10 | 30-38 | 36 |
| 13. | Гарадзея | 30 | 8 | 7 | 15 | 30-48 | 31 |
| 14. | Слуцк | 29 | 8 | 3 | 18 | 31-55 | 27 |
| 15. | Белшына | 30 | 5 | 6 | 19 | 34-71 | 21 |
| 16. | Смалявічы | 29 | 3 | 5 | 21 | 27-72 | 14 |

## Чэмпіянат Беларусі

**ВЫНІКІ 30-га ТУРА. 28.11.** СЛАВІЯ (Мазыр) — ЭНЕРГЕТЫК-БДУ (Мінск) — 2:1 (Жук, 88, 90 — Малькевіч, 76, аўтагол). ДЫНАМА (Брэст) — НЁМАН (Гродно) — 3:1 (Гардзейчук, 22, Мілеўскі, 67, Быкаў, 94+ — Юзэпчук, 21, аўтагол). ІСЛАЧ (Мінскі раён) — ГАРАДЗЕЯ — 2:2 (Юсаў, 35, Карповіч, 50 — Махамед-Джухары, 7, С. Архіпаў, 23). ДЫНАМА (Мінск) — БАТЭ (Барысаў) — 0:0. ВІЦЕБСК — ТАРПЕДА-БЕЛАЗ (Жодзіна) — 2:3 (Матвеянка, 14, Чарвякоў, 79 — Д. Анцілеўскі, 8, Габрыэл Рамас, 51, Велоза, 86). ШАХЦЁР (Салігорск) — МІНСК — 4:2 (Кендыш, 24, А. Архіпаў, 72, 97+, Бягуноў, 92+ — Жэрдзеў, 18, Шрамчанка, 52). БЕЛШЫНА (Бабруйск) — РУХ (Брэст) — 3:7 (Лявіцкі, 10, 68, Рэкіш, 83 — Садоўскі, 19, з пенальці, 21, 44, 70, В. Анцілеўскі, 24, Шаўчэнка, 63, Пятрэнка, 75).




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №2018

Падпісана да друку 03.12.2020. 8.00. Наклад 2700 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.